# ЗЬМЕСТ.



---

1-ая дзярж. друк. „БДВ“. Заказ № 2619. У ліку 1800. Галоўлітбел № 1449.




Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня Чэрвень 1928 г. № 6

## Саветы і будаўніцтва калектыўных гаспадарак на вёсцы.

Выходзячы з таго, што сацыялістычнае перабудаваньне сельскае гаспадаркі і сапраўдны ўздым эканамічнага і культурнага дабрабыту бядняцка-серадняцкай масы сялянства, магчымы толькі пры ўмове пераходу дробных і драбнейшых (індывідуальных) паасобных сялянскіх гаспадарак да буйнага аб'яднаньня гэтых гаспадарак, XV партзьезд паставіў задачу калектывізацыі, каапэраваньня сельскае гаспадаркі, як галоўную задачу нашае працы на вёсцы.

Немагчымасьць скарыстаць увесь лішак насельніцтва вёскі прамысловасьцю, наліччa ў вёсцы значных колаў маламоцнага сялянства, якое ня мае магчымасьці індывідуальным парадкам палепшыць сваю гаспадарку, імкненьне беднаты вёскі гаспадарча ўмацавацца і вызваліць сябе ад эксплёатацыі кулака—ўсё гэта вымагае—ад саветаў і выканаўчых камітэтаў самых уважлівых адносін да справы калектывізацыі сельскае гаспадаркі, рашучай, усямернай, штодзённай дапамогі калектывам у іх цяжкай будаўнічай працы. Вопыт апошняга часу ў калгасным будаўніцтве паказвае, што ў гэтым будаўніцтве саветы не зьяўляюцца непасрэднымі ўдзельнікамі арганізацыі гаспадарчых калектываў; арганізацыя іх, як і раней, у большасьці ідзе стыхійна. Таму часта калектывы будуюцца не на здаровых арганізацыйна-гаспадарчых падставах, часта з мэтай атрыманьня крэдыту на свае асабістыя паасобныя патрэбы; зразумела, што такія калектывы няжыцьцёвы і хутка разваліваюцца.

Значэньне калектыўных гаспадарак у справе сацыялістычнага перабудаваньня сельскае гаспадаркі, іх роля ў арганізацыі вясковае беднаты і, наогул, у палепшаньні дабрабыту вёскі—дыктуюць патрэбнасьць усямернага і сапраўднага падтрыманьня гэтага руху з боку дзяржавы ў асобе саветаў і выканкомаў, як органаў дыктатуры пралетарыяту. Перш за ўсё, з боку саветаў трэба павесьці рашучую барацьбу са спробамі паасобных кулацкіх элемэнтаў арганізоўваць і скарыстоўваць фальшыва-калектыўныя гаспадаркі ў сваіх асабістых мэтах. Дапамагаць арганізацыі калектываў з батракоў, беднаты і серадняцкага сялянства вёскі, сапраўды жадаючага перабудаваць гаспадарку на сацыялістычных падставах. Дабівацца ільготных умоў куплі машын толькі тым машынным таварыствам, якія складаюцца з бядняцкіх жыхароў вёскі. Дапамагаць, арганізуючым калектывы і таварыствы органам, каб у праўленьне таварыстваў і ў іншыя органы кіраўніцтва, а таксама і ў лік устаноўшчыкаў таварыстваў, не папалі тыя асобы, якія пазбаўлены права абіраць у саветы.

Пастановы Саюзнага і Беларускага ўраду, аб дармовай перадачы калектыўным гаспадаркам прамысловых і дапаможных прадпры-



емстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі калгасаў, павінны быць цалкам выкананы безадкладна. Калектывізацыі і каапэраваньню сельскае гаспадаркі, наогул, трэба дапамагаць па ўсіх галінах усяе савецкае сыстэмы.

Мы ведаем, што важнейшае значэньне маюць гаспадарчыя будоўлі агульнага карыстаньня; яны цягнуць за сабой пашырэньне і паглыбленьне агульных (обобществленных) сродкаў вытворчасьці—машын, жывёлы, запасаў і г. д. Калектыўныя жылішча паглыбляюць (внедрают) грамадзкі пачатак у быт, уздымаюць культурны ўзровень і замацоўваюць калектыўнае вядзеньне гаспадаркі. Савецкія органы на мясцох, у сэнсе дапамогі калектывам стварыць, будаваць калектыўныя жыльлёвыя будынкі, маюць магчымасьць рабіць поўнае садзейнічаньне, шляхам забясьпячэньня ляснымі матар'яламі з сваіх фондаў.

Акрамя гэтага, трэба ставіць пытаньне аб водпуску доўгатэрмінова-га крэдыту, водпуску лесу на ільготных умовах і г. д., на пабудову калектыўных як жыльлёвых, гэтак і гаспадарчых будынкаў. Машынізацыя калектыўных гаспадарак зьяўляецца важнейшай задачай будаўніцтва калектываў. Таму ўсе нізавыя савецкія органы павінны дапамагчы дзяржаўным і каапэрацыйным арганізацыям станоўча вырашыць гэту задачу.

Саветы павінны дапамагчы ўліць у існуючыя калектывы сьвежыя сілы з батракоў, безьзямельнай і малазямельнай беднаты. Паасобныя існуючыя калектывы (частка яўрэйскія) маючыя значныя плошчы зямлі пры невялікім ліку сяброў калектыву, робяць немагчымым уваход у калектыў новых сяброў калектыву надзвычайна павялічаным сяброўскім узносам. У гэтыя калектывы могуць залучацца асобы, якія карыстаюцца значнымі сумамі грошай; батраку і беднаце ў гэтыя калектывы, з надзвычайна вялікімі сяброўскімі ўзносамі, уваход немагчым. Такія зьявішчы гавораць аб тым, што ў тыпавым статуце аб калектывах трэба зрабіць некаторыя зьмены, даць большую магчымасьць бяднейшым колам працоўнага насельніцтва ўдзельнічаць у будаўніцтве новых калектываў і здаровым папаўненьні існуючых.

Існуючыя ў БССР калектывы ў сваёй большасьці, асабліва калектывы яўрэйскіх земляробаў—жыцьцёвы, маюць значныя гаспадарчыя дасягненьні, з посьпехам ужываюць тэхніку: машыны, трактар, сартавыя засевы, разводзяць племяную жывелу і г. д. Ёсьць і шмат недахопаў. Напрыклад, шмат калектываў яшчэ да гэтага часу не земляўпарадкаваны, што зьяўляецца аднэй з галоўных прычын распаду незамацаваўшыхся калектываў. Выканкомы і саветы павінны аддаць перавагу земляўпарадкаваньню калектываў у параўнаньні з земляўпарадкаваньнем індывідуальных гаспадарак.

Пасьпяховае разьвіцьцё калектывізацыі патрабуе ад нас самай сур'ёзнай увагі па лініі культурна-асьветнай працы. Школы, хаты-чытальні, Ленінскія куткі, радыё—павінны з дапамогай саветаў і выканкомаў прыблізіць непасрэдна сваю працу да існуючых і арганізуемых калектываў. Саветы павінны праз культарганізацыі дапамагчы калектывам стаць асяродкам савецкае агульнае і гаспадарчае культуры на вёсцы. Калектывы, з дапамогай саветаў, павінны даказваць на справе сваю пераважнасьць ва ўсіх галінах перад індывідуальнымі гаспадаркамі і гэтым самым рабіць уплыў на ваколічную масу сялянскіх гаспадарак. Зразумела, што для гэтага калектывам, як і саўгасам, трэба мець самую шчыльную сувязь з ваколічным насельніцтвам, дапама-

гаючы бядняцка-серадняцкай масе і садзейнічаючы пераходу яе да каляктыўных форм гаспадаркі, паднімаючы тэхніку сельска-гаспадарчай вытворчасьці, аказваючы ўплыў на грамадзкае жыцьцё вёскі паднявцьцем яе гаспадарчага і культурнага ўзроўню. Пры дапамозе з боку саветаў і райвыканкомаў каляктывы павінны: паставіць на належную вышыню арганізацыю і вядзеньне сваёй гаспадаркі, дапамагаць бядняцка-серадняцкай масе шляхам дачы ў часовае карыстаньне машын, рабочай жывёлы, наладжваньня гаспадарчых прылад, палепшаньня жывёлы, дачы насеньня на самых даступных умовах; стварыць умовы жаданьня арганізацыі новых каляктываў, як вышэйшай формы землякарыстаньня для ўсяго працоўнага сялянства.

Каляктывы павінны быць цесна зьвязаны з усімі грамадзкімі арганізацыямі вёскі, асабліва з каапэрацыяй, камітэтам сялянскай узаемадапамогі. Для таго, каб каляктывы сапраўды зьявіліся месцамі разьвіцьця савецкае культуры на вёсцы, яны павінны ўзяць на сябе прыклады арганізацыі дзіцячых ясьляў, клюбаў, бібліотэк, розных курсаў, гурткоў і г. д.

У справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкага сялянства, паглыбленьня сацыялістычных элемэнтаў на вёсцы і рашучага наступленьня на кулака—на будаўніцтва гаспадарчых каляктываў на вёсцы ўскладаюцца агромністыя задачы; таму саветы і выканкомы павінны ўсямерна дапамагаць пасьпяховаму вырашэньню гэтае агульнае задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

**А. Хацкевіч.**

---

# Насенаводзтва ў Гомельскай акрузе і задачы яго разьвіцьця*)

**Палепшаньне насенаводзтва—шлях да павялічэньня ўраджаю.**

Малая ўраджайнасьць за апошнія гады тлумачыцца ня толькі тым, што гаспадары зьвяртаюць мала ўвагі на пытаньні апрацоўкі глебы, угнаеньне яе, але і якасьцю насеннага матар'ялу. Ачыстка насеннага матар'ялу хаця і робіць некаторы ўплыў на павышэньне ўраджайнасьці нашых палёў, але ня гледзячы на гэта, якасьць пасеўнага матар'ялу з году ў год робіцца ўсё горшай.

А між тым, апошнімі пастановамі дзяржаўных органаў гэтаму пытаньню надаецца асаблівае значэньне. Таму мы павінны накіраваць нашу працу так, каб мець магчымасьць павышаць і паляпшаць нашу ўраджайнасьць праз палепшаньне насенаводзтва, вельмі важнай галіны сельскае гаспадаркі.

У бягучым годзе па Гомельскай акрузе намечана масавае аб'яднаньне сялянскіх гаспадарак у насенаводныя каапэратывы. Намечана арганізаваць насенныя каапэратывы з плошчамі: пад авёс—1.195 гэкт. жыта—4.090 гэкт. і бульбу—3.950 гэкт. Пры бліжэйшым азнаямленьні з матар'яламі працы на мясцох выяўляецца, што на гэтае пытаньне зьярталася ўвагі менш, чым яно патрэбна. Праца па палепшаньню насенаводзтва ў нашых умовах можа правільна весьціся толькі тады, калі не адзін аграном, але і шырокія грамадзкія масы зразумеюць, як некарысна для нас прывозіць адкуль-небудзь насенны матар'ял

*) Артыкул друкуецца, як дыскусыйны.

Ён ня толькі дорага каштуе, а часам здараецца і так, што не падыходзіць да нашых умоў.

Апрача таго, трэба растлумачыць сялянству, што палепшыць насенаводзтва магчыма толькі калякты ўна, а не паасобнымі дварамі, бо досьледамі нашых навукова-дасьледчых устаноў паказана, што калі сеяць аднаму добрае насеньне, а другому дрэннае, дык гэта знача з добрага рабіць дрэннае.

Каб палепшыць насенаводзтва ў акрузе, трэба з'арганізаваць сетку гаспадарак, якія гадавалі-б насеньне для насенаводзтва і стварыць такія ўмовы, каб яны гэтае заданьне мелі магчымасьць выканаць. Акруговы зямельны аддзел лічыць мэтазгодным падзяліць гэтыя пункты на чатыры катэгорыі. Да першай катэгорыі можа быць аднесена Навазыбкаўская станцыя, або станцыя, якая будзе прызначана НКЗ; да другой можна аднесьці цьвёрда зацьвержаныя 4 асноўных гаспадаркі: Очэса-Рудня, Іванаўск-Дземянскі, Навасёлкі і Закружжа; да трэцяй усе саўгасы і частку калгасаў і да чацьвёртай с.-г. арцелі, т-вы па грамадзкай апрацоўцы зямлі і насенныя т-вы. З прычыны таго, што ў чацьвёртую катэгорыю ўвайдуць найбольшыя па сваёй велічыні гаспадаркі, задачы раённай арганізацыі будуць у тым, каб намеціць месцы для 4 пунктаў па вырашчваньню насеньня. Апрача таго, трэба вызначыць над якімі культурамі будзе працаваць тая ці іншая насенная ячэйка, бо праца гэтая пачнецца толькі ў бягучым годзе. Акрза лічыць, што працу па палепшаньню насенаводзтва трэба зьвесьці да двух асноўных культур—авёс і бульба для веснавога севу і жыта—для васеньняга. Але з вясны наступнага году трэба будзе пачаць уводзіць і іншыя культуры. Галоўнымі з іх, бязумоўна, трэба прызнаць—жыта, авёс, бульбу і лён, як найбольш патрэбныя ў нашай сельскай гаспадарцы.

Намячаючы практычныя задачы па разьвіцьцю мясцовага насенаводзтва і насенаводнай каапэрацыі, трэба ўявіць сабе, што своечасовае выкананьне гэтае працы забясьпечыць посьпех яе. Такім чынам мы выканаем асноўныя дырэктывы партыі ў гэтым пытаньні. Мы пазбавімся, такім чынам, ад патрэбы штогодна ўвозіць насенны матар'ял, а таксама і ад агульных дырэктыў «замяніць насенны матар'ял у саўгасах, калгасах і перадавых пасёлках».

Пераходзячы да арганізацыі насеннай каапэрацыі, трэба кожнаму, хто праводзіць гэтую працу, выявіць такое пытаньне: арганізуецца каапэрацыя для палепшаньня насенаводзтва, ці мае мэтай праз насенаводзтва арганізаваць т-вы па грамадзкай апрацоўцы зямлі і калгасы.

Мне здаецца, што побач з задачай палепшаньня насенаводзтва трэба ставіць і задачу калектывізацыі сельскай гаспадаркі праз насенаводную каапэрацыю. Насенаводзтва патрабуе лепшай апрацоўкі глебы, а гэта прымушае набываць новыя культурныя машыны. Насенаводзтва патрабуе правільнай апрацоўкі насеньня (малацьба) і адсюль адзін добры ток, замест некалькіх дрэнных. І так крок за крокам магчыма будзе перабудаваць насенаводную каапэрацыю ў калектыў.

Другое пытаньне, якое паўстае перад кожным працаўніком, які арганізуе насенаводныя каапэратывы—гэта раён дзейнасьці. Трэба зыявіць, ці будзе каапэрацыя яднаць цэлыя вёскі і наогул гаспадарча—зьвязаныя паміж сабою насялёныя пункты, ці яна створыцца за кошт толькі некалькіх гаспадарак з розных пунктаў. Акрза лічыць, што арганізацыя насенаводнай каапэрацыі за кошт паасобных гас-

падарак ня дасьць сталых вынікаў, бо як ужо гаварылася вышэй, атрымаць у такіх умовах насеньне добрата гатунку вельмі цяжка. Трэба дабівацца таго, каб насенаводныя каапэратывы арганізоўваліся ў адным заселяным пункце ці ў некалькіх пунктах, якія гаспадарча зьвязаны між сабою і якія вядуць у адным напрамку свае гаспадаркі. Апрача таго, кожны працаўнік можа сустрэць такую перашкоду. Няма вёскі, у якой магчыма было-б адразу каапэраваць усіх сялян. Заўсёды знойдзецца такая частка, якая варожа будзе адносіцца да каапэрацыі і гэтым будзе першкаджаць ёй. Тады трэба павесьці працу так, каб каапэраваная частка насельніцтва мела магчымасьць дзяліцца сваімі дасягненьнямі з іншымі. Калі-ж здарыцца так, што ўсё насельніцтва будзе каапэравана і толькі нязначны процант яго будзе перашкаджаць правільнаму вядзеньню працы, дык гэтае становішча павінна быць разьвязана законадаўчым шляхам.

Трэцяе пытаньне—і яно павінна быць безадкладна—гэта аб уступных і паявых узносах, а таксама аб арганізацыйным і вытворчым абслугоўваньні насенаводнай каапэрацыі. Што датычыцца абслугаваньня, дык трэба сказаць, што пакуль што насенаводная каапэрацыя толькі пачынае сваю працу і ёй трэба дапамагчы. Таму, з боку арганізацыйна-каапэрацыйнага і збытавага яна павінна абслугоўвацца с.-г. каапэрацыяй, а з боку вытворча-агранамічнага—раённай агранаміяй.

Пры арганізацыі насенаводнай каапэрацыі вельмі важна забясьпечыць яе мінэральнымі ўгнаеньнямі, канцэнтраванымі кармамі і насенным матар'ялам лепшай якасьці. Да гэтай працы трэба прыцягнуць каапэрацыйныя органы; яны павінны добра наладзіць разьмеркаваньне насеннага матар'ялу і сваечасовы завоз мінэральных угнаеньняў і канцэнтраваных кармоў. І толькі пры ўмовах, што праца будзе сваечасова пачата, пры бязупынным нагляданьні за дзейнасьцю насенаводнай каапэрацыі, мы здолеем падняць ўраджайнасьць нашых палёў. І гэтым самым мы павялічым валавую прадукцыю сельскай гаспадаркі і тарварнасьць сялянскіх гаспадарак, а таксама пачнем правільна, хоць і павольна, будаваць сельскую гаспадарку ў галіне насенаводзтва на сацыялістычны лад.

**К. Масюкоў.**

---




## Пра каляктыўныя гаспадаркі.

Першае пытаньне, якое паўстае пры арганізацыі каляктыўных гаспадарак, гэта тое—якую іменна з розных каляктыўных гаспадарак трэба выбраць: ці 1) таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі, ці 2) сельска-гаспадарчую арцель, ці 3) сельска-гаспадарчую камуну.

Галоўная розьніца паміж імі будзе, па-першае, у тым, наколькі супольна вядзецца праца і, па-другое, у тым, як разьмяркоўваюцца вынікі працы і на якіх умовах ўносіліся паі. Супынімся на кожным з гэтых аб'яднаньняў.

Таварыства супольнай апрацоўкі зямлі зьяўляецца найбольш простым з усіх аб'яднаньняў. Тут ня ўся праца цалкам праводзіцца супольна, а разам праводзіцца толькі агульнае ворыва і прыборка. Гэта значыць, што сумесна абрабляецца поле і сенажаці, а часамі такія таварыствы маюць і даглядаюць разам супольны сад. Удзельнікі такога таварыства дагаворваюцца аб сумеснай працы ў полі на супольным кавалку зямлі. Сродкі-ж вытворчасьці і іншая маёмасьць знаходзяцца ў карыстаньні кожнай сям'і. Што-ж датычыцца вялікіх машын, як касілка, жнеярка, малатарня і інш., то яны купляюцца таварыствам на агульныя грошы. У часе палявой працы кожная сям'я ў залежнасьці ад работнікаў пасылае на працу патрэбную рабочую і конскую сілу з с.-г. машынамі.

На працягу ўсёй працы праводзіцца вучот затрачаных кожным сябрам таварыства—працоўных дзён. У канцы года, па сканчэньні ўсёй працы, вынікі працы разьмяркоўваюцца паміж працаздольнымі сябрамі таварыства, згодна з лікам затрачаных на працу дзён. Прычым атрыманы ад працы прыбытак разьмяркоўваецца паміж сябрамі таварыства пасьля таго, як будуць вылічаны страты, напрыклад, агульныя даўгі, за пакупку насеньня, угнаеньне, машыны і адлічэньні пэўнага проценту ў непадзельны фонд капітала таварыства. Свабодны ад агульных прац час сябры таварыства могуць скарыстоўваць, як захочуць, напрыклад, на заработкі на старане і г. д. Толькі палявыя працы зьвязваюць сяброў таварыства. Таварыства супольнай апрацоўкі зямлі мае некалькі выгад перад паасобнай гаспадаркай, а іменна:

1. Супольнае ворыва дае магчымасьць карыстацца машынамі, напр. трактарам, а не плужком заворваць глебу, што і лягчэй і выгадней (гл. малюнак).

2. Пры супольнай апрацоўцы можна правільна і выгадна скарыстаць працу, а гэта ёсьць шлях да інтэнсыўнага гаспадараньня.

3. Можна лепш карыстацца агранамічнай дапамогай.

4. Супольная апрацоўка дае магчымасьць шырока падабраць севазварот, гледзячы на тое, які кірунак мае гаспадарка.

5. Сумесная апрацоўка зямлі зьнішчае межы, пашырае пасеўную плошчу і палягчае барацьбу з засьмечваючымі травамі.

6. Усё вышэй пералічанае падымае сельскую гаспадарку, павялічвае таварнасьць гаспадаркі і яе даходнасьць. Але гэтыя таварыствы, як самыя простыя калектыўныя арганізацыі маюць такія недахопы:

1. Нераўнамерна разьвіваюць паасобныя галіны сельскай гаспадаркі, напр., жывёлагадоўля не агульная, дзякуючы чаму яна ня зможа належным чынам разьвівацца, бо ня мае сувязі з іншымі галінамі гаспадаркі.



Ворыва трактарам асушанага балота ў калектыўнай гаспадарцы.

2. Дзеля таго, што ня ўся сельска-гаспадарчая праца супольна, кожны член т-ва лепш даглядае сваю прыватную гаспадарку і тым адрываецца ад агульнае гаспадаркі.

3. Праца тых галін гаспадаркі, што вядуцца не супольна, праходзіць нерацыянальна, бо кожны даглядае сваіх сьвіней, сваіх кароў і г. д.

4. Цягавая сіла ў такіх т-вах шмат дзе скарыстоўваецца нерацыянальна. З нагляданьняў над калектыўнымі гаспадаркамі Віцебскае акругі— у т-вах супольнае апрацоўкі зямлі на аднаго каня прыходзіцца 5 дзесяцін пахаці, тым часам як нармальна трэба лічыць 8 дзес. З тае прычыны ў т-вах наглядаюцца лішкі рабочай сілы. Гэта тлумачыцца тым, што ня ўсе галіны сельскай гаспадаркі вядуцца супольна.

5. У такіх т-вах заўважана перагружанасьць нярухомай маёмасьцю; што зноў бывае дзякуючы неаб'яднанасьці ўсёй працы. Напрыклад, кожны гаспадар мае свае жыльлёвыя і гаспадарчыя будынкі.

6. З тае прычыны, што члены т-ва адны багацейшыя, другія бяднейшыя, адны маюць больш работнікаў, другія менш і вынікі пра-

цы разьмяркоўваецца неаднолькава, а гэта вядзе да таго, што адны члены т-ва будуць жыць лепш, а другія горш.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, т-ва супольнае апрацоўкі зямлі вельмі карысна. Селяніна цяпер яшчэ палохае абагульненьне ўсёй працы ў гаспадарцы, і таму такія т-вы вельмі карысны тым, што зьяўляюцца пераходнымі ступенямі да супольнай працы—імення да сельска-гаспадарчай арцелі.

Сельска-гаспадарчая арцель зьяўляецца ўжо больш дасканалым сельска-гаспадарчым аб'яднаньнем, чым т-вы супольнай апрацоўкі зямлі. У сельска-гаспадарчай арцелі аб'яднаны і праца, і зямля, і капітал. А таму ў сельска-гаспадарчай арцелі аб'яднаны ўсе галіны сельскай гаспадаркі. У арцелі вядзецца адзіная гаспадарка сусьцэльна. Маемасьць арцелі складаецца з паявых узносаў, якія ўносяцца кожным членам пры ўступленьні. Узносы могуць уносіцца, як грашыма, так і натурай, а таксама іншымі рэчамі, якія могуць быць карысны гаспадарцы арцелі. У адных арцелях узносы ўносяцца ў залежнасьці ад таго, колькі едакоў у сям'і, у другіх у залежнасьці ад таго, колькі сем'яў і ў трэціх у залежнасьці ад сяброў арцелі (сябрам арцелі лічыцца ўсякі, хто мае 18 год). Мы лічым, што найбольш правільна робяць тыя арцелі, якія ўносяць пай ад сяброў. Пры такім спосабе ўнясеньня пая (ад сяброў)—больш выгоднасьці для арцелі, бо кожны сябар арцелі зацікаўлен у тым, каб падняць гаспадарку на належную вышыню і тым атрымаць больш даходу. Пры ўнясеньні пая ў залежнасьці ад сям'і, ня ўсе сябры сям'і зьяўляюцца раўнапраўнымі гаспадарамі, а па большай частцы адчуваюць сябе, як падзённыя рабочыя. Праз гэта такі працаўнік мала зацікаўлен у даходах, а значыць і горш працуе. Яны пры выхадзе з арцелі нічога не палучаюць. Мы раім ўносіць паі пры арганізацыі арцелі не ад сем'яў, а ад сяброў.

Ня менш важна для арганізацыі сельска-гаспадарчае арцелі і тое, як аплачваецца праца. У сваёй практычнай працы ў сельска-гаспадарчых арцелях Менскае, Віцебскае і Аршанскае акруг, мы сустракалі розныя спосабы аплаты: 1) па сем'ях; 2) па ліку працаздольных сяброў, прычым устаноўлівалася розьніца між аплатай працоўнага дню мужчыны і жанчыны і 3) зважаючы на тое, колькі працаздольных чалавек, адлічваючы аднак некаторы % на дзяцей (ад 10—15 проц. пайка дарослага). Рабілася аплата часамі зважаючы на тое, колькі едакоў. А часамі аплачвалі, гледзячы на тое, колькі хто затраціў працоўных дзён і, нарэшце, мы бачылі шмат розных камбінацыйных спосабаў аплаты. Агулам можна сказаць, што колькі арцеляй, толькі і спосабаў аплаты. А між тым трэба адзначыць, што аплата працы мае вельмі важнае значэньне ў сельска-гаспадарчым калектыўным жыцьці.

Праз няправільную аплату шмат дзе параскідаліся калектыўныя гаспадаркі і нам трэба над гэтым падумаць. Трэба прызнаць аднак, што самым лепшым спосабам аплаты будзе той, які робіцца па ліку затрачанае працы кожным сябрам. Пры гэтым спосабе аплаты кожны працаўнік сам зацікаўлены, каб больш вырабіць і тым палучыць большы даход.

Самым дасканалым сельска-гаспадарчым аб'яднаньнем зьяўляецца сельска-гаспадарчая камуна. Галоўная розьніца яе ад разгледжаных намі сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў у тым:

1) Што ўстаў с.-г. камун прадугледжвае абсалютнае абагульваньне ўсяе працы. 2) Устаў сельска-гаспадарчых камун прадугледжвае таксама агульнае харчаваньне. 3) У камуне паявых ўзносаў няма,

як у с.-г. арцелях і т-вах агульнае апрацоўкі зямлі, а кожная асоба, хто ўступае ў камуну, уносіць усю сваю маемасьць, якая запісваецца як яго асабісты ўклад; прычым сябар камуны за ўнесены ўклад процанта не палучае.

Наогул трэба сказаць, што ў камуне інтарэсы ўсіх сяброў камуны цалкам ўроўнены. Уласнасьць цалкам зьнішчаецца. Няма бедных і багатых сяброў у камуне, як гэта мы бачылі ў арцелях і т-вах.

Раз няма паявых узносаў, то ў камуну найбольш выгадна паступаць бедняком, якія ня маюць маемасьці, каб з'арганізаваць т-ва або сельска-гаспадарчыя арцелі.

Не зважаючы на тое, што сельска-гаспадарчыя камуны зьяўляюцца найбольш дасканалымі і выгаднымі аб'яднаньнямі—іншыя сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, як арцелі і т-вы, таксама маюць вялікае значэньне для падняцьця нашае гаспадаркі. Яны зьяўляюцца выгаднымі пераходнымі аб'яднаньнямі. Бо нельга зразу перамагаць псыхалёгію селяніна і аб'яднаць яго адразу ў с.-г. камуны, а таму цяпер трэба тымі спосабамі больш арганізоўваць т-ваў супольнай апрацоўкі зямлі, а часамі с.-г. арцеляй, каб пасьля паступова перайсьці да больш дасканалых с-г. аб'яднаньняў—да камун.

**М. Цынкоў і Д. Пліс.**

---

# Калектывізацыя жывёлагадоўлі.

XV зьезд ЦКП(б) паказаў, што адзіным і выключным сродкам вырашэньня сялянскага пытаньня зьяўляецца калектывізацыя сельскае гаспадаркі. Гэта—не загад цэнтра, а гэтага патрабуе сама вёска, якая шукае выхаду з свайго становішча, прабуючы ўсе формы с-г. каапэрацыі і аб'яднаньня сваіх сіл.

Гэтая патрэба шырокай каапэрацыі ў вёсцы адчуваецца заўсёды і ўва ўсім. З асаблівай вастратой адчувае наша вёска ў сучасны момант патрэбу калектывізацыі дробных гаспадарак.

На фронце калектывізацыі сельскай гаспадаркі сяляне-каапэратары жывёлаводы павінны быць уперадзе.

Жывёлагадоўля беларускага селяніна заўсёды была таварнай, заўсёды захоўвала ў сябе шырокія магчымасьці і, адносна каапэрацыі, дык ёю найбольш была ахоплена.

Рост вытворчай с-г. каапэрацыі адзначаўся па лініі малочнае гаспадаркі. У племяной жывёлагадоўлі, у арганізацыі злучных пунктаў, у палепшаньні і скарыстаньні пашаў і ў збыце прадуктаў каапэраваньне вёскі зьяўляецца важнейшай умовай для разгортваньня якіх-бы та ня было мерапрыемстваў. У сучасны момант мы стаім перад задачай павесьці хуткім тэмпам калектывізацыю вёскі. Пры гэтым калектывізацыя павінна быць больш шырокай з ўсебаковай увязкай дзейнасьці бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі. Жывёлагадоўлі гэта асабліва патрэбна, у прыватнасьці малочнай гаспадарцы нашай адставаць пры каапэраваньні збыту прадуктаў вельмі нямэтазгодна. Трэба выкарыстоўваць заложаныя ў малочнай гаспадарцы імкненьні сялян да каапэрацыі, трэба толькі дапамагчы сялянству знайсьці гэтыя формы. Усе нашы малочныя таварыствы, масларобныя і сыраварныя арцелі павінны павесьці паглыбленьне каапэрацыі і калектывізацыі ўсіх форм дзейнасьці нашых сялян—жывёлаводаў, пачынаючы ад збыту і канчаючы кормаздабываньнем.



Сюды ўвойдуць: каапэрацыйныя ці каляктыўныя пашы і кармовыя вучасткі, каляктыўныя выхавальнікі племяного і малочнага быдла. Каляктыўныя малочныя стады, малочныя фэрмы і скотныя двары; кантрольна-малочныя і бычыныя таварыствы, каляктыўныя штучныя пашы і пасевы караньплодаў, каляктыўныя сіласныя ямы (для захаваньня на зіму травы). У іншых галінах жывёлагадоўлі:—каняводзтва— таксама даўно прысьпела да калектывізацыі. Яечныя і адкормачныя птушкаводныя таварыствы, каляктыўныя прамысловыя сьвінарні.

Усе гэтыя формы аб'яднаньняў, каапэратываў і каляктываў нашы сяляне прабуюць прышчапіць у сваю дзейнасьць. У некаторых выпадках маюцца добрыя дасягненьні. Зусім неспрабаванай формай калектывізацыі зьяўляюцца каапэрацыйныя ці каляктыўныя скотныя хлявы. Але трэба спадзявацца, што выгады ад такога ўтрыманьня скаціны будуць разумна скарыстаны.

Выгад каляктыўны хлеў для скаціны дае шмат:

1. Лягчэй дабіцца высокіх гадавых удояў.

2. Хуткае ўзбагачваньне скацінай кожнага ўдзельніка.

3. Магчымасьць завесьці правільны парадак, абслугоўваньне спэцыялістым і наладжваньне вучоту прыбытку і выдаткаў.

4. Лепшае скарыстоўваньне сілы сялян—каапэратараў.

5. Лягчэй атрымаць дапамогу аграномаў, вэтэрынараў, па с.-г. крэдыту і інш.

Ня дзіва, што ў саўгасах адна скотніца абслугоўвае 10 кароў, доячы і чысьцячы іх, а адзін скотнік з канём падвозіць корм, выбірае і адводзіць гной з разьліку на 35 кароў.

Вось наколькі відавочны выгады і магчымасьць зьнізіць сабекошт прадуктаў і зьменшыць частку сваёй працы для палепшаньня іншых бакоў сваёй гаспадаркі. Зразумела, што для пасьпяховага вядзеньня каапэрацыйнага ці каляктыўнага грамадзкага (скотнага хлява) стада, трэба, каб яно было большае па сваёй колькасьці, 50 ці 60 галоў, а лепш, калі 100—150 галоў. Трэба таксама палепшаная арганізацыйная праца па забясьпечаньню лепшымі кармамі і сенажацямі.

**П. Ластоўскі.**

---

# Арганізуйце машынныя таварыствы.

**Цяжкую працу з сваіх плячэй—пераложым на жалезныя плечы машыны.**

Пад машынным таварыствам трэба разумець аб'яднаньне сялян з мэтай агульнага карыстаньня с-г. машынамі. Каб зразумець патрэбу ў такім аб'яднаньні, прасьцей за ўсё паглядзець на тыя сельска-гаспадарчыя машыны, якія ёсьць у сялянскай гаспадарцы, і тыя, якія патрэбны, а іх няма. Звычайнымі прыладамі зьяўляюцца: 1) плуг, 2) барана драўляная з жалезнымі зубамі, 3) калёсы, 4) сані і іншая дробязь.

Пераліченых прыладаў для гаспадаркі зараз мала. Вельмі патрэбным зьяўляецца асыпнік—абганяць бульбу, а то да гэтага часу ў большасьці бульба абганяецца сахой, якой яшчэ бацькі і дзяды аралі глебу. Вялікая патрэба ёсьць у малатарні і арфе, на якіх хутчэй, ляг-

чэй і лепш апрацаваць зерня. Каб дагледзець сенажаць і зьністожыць на ёй мох—зразу зьяўляецца патрэба ў лугавой бароне, бо недагледжаныя сенажаці даюць дрэнныя ўраджаі. Каб атрымаць добры і чысты ўраджай збожжа, ніводны разумны гаспадар не пачне сеяць насеньне са сьмецьцем—а імкнецца рознымі шляхамі ачышчаць яго; а якая-ж прылада можа лепш ачысьціць зерня ад сьмецьця і нават адсартаваць яго як ні сартыроўка «Трыумф». або «Трашчотка», або «Зьмейка» і г. д. Відавочна, зьяўляецца патрэба ў зерня-ачышчальных і сартавальных машынах.

Заўсёды аграномы кажуць, што, калі хочаш павялічыць ураджай, сей радовай сеялкай, якая акрамя павышэньня ўраджаю, павялічэньня посьпеху пасеву, аканоміць і насеньне. Для культурнае гаспадаркі сеялка вельмі патрэбна, як і касілка.

Далей, не заўсёды-ж жаночым сьпінам адказваць у часе прыборкі ўраджаю, калі гэта можна лёгка зрабіць пры дапамозе жнеяркі: конскае працоўнае сілы. Можна было-б яшчэ памянуць шмат аб якіх машынах для рацыянальнае гаспадаркі, але хопіць і гэтых.

Пералічаныя машыны адрозьніваюцца ад тых, якія зараз ёсьць у большасьці гаспадарак тым, што яны патрэбны гаспадарцы кожны год на зусім кароткі тэрмін. Асыпнік патрэбен ўсяго на 2—3 тыдні, малатарня з веялкай таксама, сартыроўка патрэбна яшчэ на меншы тэрмін. Сеялка патрэбна на 1—2 дні і г. д.

Купляць для сябе машыны кожная гаспадарка ня можа, толькі моцныя, кулацкія гаспадаркі маюць магчымасьць гэта зрабіць, а большасьці серадняцкіх і бядняцкіх гаспадарак гэта не пад сілу. Бядняцкая гаспадарка ня можа траціць вялікія грошы на пакупку машыны, якая будзе мець толькі 2—3 дні працы. Адмовіцца ад карыстаньня прыладамі таксама ня можна таму, што без машын немагчыма палепшыць гаспадарку, павысіць ураджай, а бяз гэтага прыдзецца заставацца ў беднасьці.

Арганізаваўшы машыннае таварыства, магчыма складаную машыну з вялікім коштам, купляць толькі на той час, на які яна патрэбна. Напрыклад, справа з малатарняй. Калі ў сярэдняй гаспадарцы адна малатарня з конным прыводам можа справіцца за 2—3 дні, то за 3 месяцы малацьбы адна малатарня можа абслужыць каля 30 гаспадарак, і, такім чынам, кожнай гаспадарцы малатарня з прыводам абойдзецца менш 10 рублёў. І гэта не ў адзін год, а на ўвесь тэрмін службы малатарні. Зусім простыя разьлікі магчыма зрабіць і з іншымі прыладамі, але лічу, што і гэта досыць яскрава высьвятляе, як аб'яднаўшыся ў машыннае таварыства, магчыма за невялкія грошы мець вельмі складаныя прылады, пры дапамозе якіх гаспадар павялічыць ураджаі з палёў і сенажацяй і аслабаніць сябе ад цяжкай і няпрыемнай працы—«перакладзе цяжкую працу на жалезныя плечы машыны».

Марудзіць з арганізацыяй машынных таварыстваў ня варта, бяз іх немагчыма ўвесьці ў гаспадарку складныя машыны і такім чынам падняць даход гаспадаркі і палепшыць свой дабрабыт.

**Х. Плятнер.**

# Пчалярская каапэрацыя.

**Павялічыць прыбытак ад пчалярства можна толькі тады, калі будзе палепшаны догляд за пчоламі. Гэтага можна дасягнуць толькі шляхам аб'яднаньня пчаляроў.**

У сучасны момант на Беларусі ёсьць два віды пчалярскіх каапэрацыйных аб'яднаньняў: гэта арцелі і таварыствы з рознымі раёнамі дзейнасьці.

Кожная з гэтых арганізацый мае мэтай палепшаньне і разьвіцьцё пчалярства ў сваіх сяброў, пры чым першыя складаюцца з пчаляроў, якія маюць невялікія пасекі, а другія з розных, пераважна, буйных пасек.

У нас на Беларусі пасекі дробныя і маюць падобны характар у гаспадарцы. Усім вядома, у якіх няспрыяючых умовах часта знаходзяцца пчолы на вёсцы. Пчол ставяць каля двара і яны перашкаджаюць і суседзям і праяжджаючым.

Даць належны догляд пчаляр-селянін часта ня можа, як ня можа ўжываць медагонку, штучную вашчыну і інш., а таму пасека яго дае мала прыбытку. Выхад з такога становішча толькі адзін—трэба дробным пчаляром арганізоўвацца ў арцелі.

Толькі пчаляры з'арганізаваныя ў арцелі здолеюць добра наладзіць пчалярскую справу, з'аканоміць час і атрымаць добры даход. Практычна ажыцьцявіць гэта можна такім чынам: некалькі пчаляроў, якія жывуць недалёка адзін ад другога, зьбіраюць сваіх пчол на агульную арцельную пасеку. Месца для пасекі арцель можа атрымаць з запаснага або ляснога фонду.

Догляд пчол на арцельнай пасецы можна даручыць каму-небудзь з сяброў арцелі, больш знаёмаму з гэтай справай. Пры сумесным вядзеньні пасекі за сабранымі ў сяброў арцелі паасобнымі сем'ямі пчол, можна весьці правільны і своечасовы догляд і ўжываць навейшыя дасягненьні навукі.

Апрача эканамічных выгад для сяброў арцелі, арцель будзе мець магчымасьць весьці і культурна-асьветную працу, як паміж сваіх сяброў, так і пчаляроў, што жывуць навокал арцелі, праз правядзеньне курсаў па пчалярству, вызавам інструктара-пчаляра і інш.

Такія арцелі з вялікіх пасекаўладароў з'арганізаваць нельга таму, што, калі злучыць разам некалькі пасек, то палучыцца такая пасека, якая не падойдзе да нашых прыродных умоў (будзе перанасялёнасьць пчоламі таго вучастку, дзе пастаўлена пасека).

Вось чаму буйныя пасекаўладары, а таксама і арцелі павінны з'арганізоўвацца ў таварыствы. Практыка і вопыт паказалі, што жыцьцёвымі зьяўляюцца толькі таварыствы буйна-раённага маштабу. Усё-ж дробныя таварыствы, якія не маглі да гэтага часу нічога зрабіць, а зьяўляліся таварыствамі на паперы, патрабуюць неадкладнага пабуйненьня шляхам злучэньня па некалькі ў адно, альбо яшчэ якой рэарганізацыі.

Дасягненьні, якія ёсьць цяпер, яскрава паказваюць, што пчалярская каапэрацыя на пэўным шляху і яна можа заняць сталае месца ў сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

**С. С-н**




## Зьмены ў земляўпарадкаваньні.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савет Народных Камісараў БССР пастановай сваёй ад 17 мая г. г. ўнесьлі значныя зьмены ў зямельны кодэкс. Зьменены артыкулы, якія рэгулююць земляўпарадкаваньне. Новы закон спрашчае земляўпарадчы працэс і праз гэта ўтварае ўмовы для пашырэньня земляўпарадчых работ.

Да гэтага году справа па ўнутрывясковаму земляўпарадкаваньню мела 2 стадыі—падрыхтоўку і выкананьне. Падрыхтоўка рабілася ўзімку. Складаўся пры гэтым плян падрыхтоўчых работ. Вельмі часта тыя зьвесткі, якія давала падрыхтоўчая праца, не адпавядалі сапраўднасьці, бо падлягаючая агляду плошча была пад сьнегам. Складзены ў працэсе падрыхтоўкі земляўпарадчы праект паказваўся насельніцтву і разглядаўся зямельнымі камісіямі. Потым справа ўносілася ў выканаўчы плян работ і земляўпарадкаваньне пачыналася зноў. Усё гэта вельмі затрымлівала земляўпарадчыя работы.

Пастанова раённай зямельнай камісіі, якая разглядала складзены земляўпарадчы праэкт, ня мела сілы. Усякая земляўпарадчая справа, разгледжаная раённай зямельнай камісіяй, падлягала перадачы ў акруговую камісію. Толькі яе пастанова лічылася канчатковаю і выконвалася ў сапраўднасьці. Такі парадак таксама падаўжаў земляўпарадчы працэс, бо было шмат спраў, па якіх ніхто не падаваў скарг на пастановы раённай зямельнай камісіі, аднак і гэтыя справы пераглядаліся ў акрузе.

Новы закон зьнішчае падрыхтоўку. Усе паданыя сялянствам хадайніцтвы пра ўнутрывясковае земляўпарадкаваньне, пасьля праверкі іх на месцы прадстаўніком раённага выканаўчага камітэту, уносяцца ў выканаўчы плян работ. Земляўпарадчык, якому даручана справа, адразу-ж зьбірае патрэбныя яму зьвесткі, абходзіць мяжу падлягаючай земляўпарадкаваньню плошчы, высьвятляе зямельныя правы членаў вобчаства, робіць гаспадарча-тэхнічнае абсьледваньне і параўнаўчую расцэнку зямель, адводзіць вучасткі паасобным землякарыстацелям і ўсё зробленае ім на пляне і ў сапраўднасьці апісвае ў земляўпарадчым праекце.

Прад'яўленьне праекту робіцца на месцы земляўпарадчыкам у прысутнасьці раённай зямельнай камісіі. Яна тут-жа разглядае заявы, спрэчкі і скаргі ўдзельнікаў земляўпарадкаваньня. Калі пастанова яе ня будзе ў двохтыднёвы тэрмін з дню прад'яўленьня аскарджана, яна набывае законную сілу. Апрача таго, калі раённая зямельная камісія зацьвердзіць земляўпарадчы праект, пры прад'яўленьні якога ня было скарг, ці хоць і былі, але нязначнага характару, то яна мае права дазволіць насельніцтву адразу-ж перайсьці да земляўпарадкаваньня ў новых межах.

Новы земляўпарадчы працэс павінен амаль што на год скараціць рух кожнай справы і гэтым аслабаніць земляўпарадчыя сілы, якія могуць быць кінуты на работы, чакаўшыя да гэтага часу сваёй чаргі.

**Е. Вішнеўскі.**

---




# Вучыцеся самі і навучайце другіх.

«Хто стаіць на месцы, той астаецца», гаворыцца ў прыбайцы. Так было і ў нашай вёсцы. Да 1926 г. сядзелі ў сваіх кутках, як прусакі ў шчэлінах і думалі, што як у нас, так і ўсюды: нічога новага няма. Але заехаў неяк да нас аграном, пагутарыў і прапанаваў адчыніць с.-г. гурток. Потым, агледзеўшы кароў і адзначыўшы адну, кажа—«як будзе ад гэтай каровы цялё, дык гадуйце, а я дапамагу гадаваць правільна». Паслухалі яго рады, склікалі сход і адчынілі гурток. Узяліся за навуку і досьледы, пачалі наведвацца да агранома і езьдзіць на выстаўкі, дзе ўбачылі шмат новага. У траўні карова прывяла бычка. Аграном зьдзержыў слова, даў дапамогу і сказаў як карміць па нормах, як гэта апісана ў часопісі «Плуг».

Хаця я чуў і сам аб дацкім спосабе кармленьня па нормах, але не прабаваў на цялятах. Цікава гэта было і мне і сябром гуртка. Пачаў я даглядаць. Бычок расьце добра, прыбывае на 1½ фун. ў дзень, а к канцу 6 м-цаў важыў 8 п. 35 ф. У 1927 г. такі-ж самы досьлед зрабілі ў другога сябра гуртка ў в. Вярцёлкі ў с. Кулдовічы. Там бычок спачатку добра ня піў пойла і затрымаўся ў росьце, але пасьля паправіўся і ў 6 мес. важыў 7 п. 20 ф. Бычок ад простай сялянскай каровы. Мне так падабаўся гэты спосаб гадоўлі цялят, што я ў тым-жа 1927 г. пачаў яшчэ гадаваць цёлку. Цялушка расла ўзімку, як і ўлетку і к году важыла 13 пуд. Вось табе і сялянская карова. Але найдзіўней было сёлета. Дастаў я ў сьнежні 1927 г. цёлачку для гадоўлі. Малака амаль зусім няма. Дрэнна выходзіць, толькі мука, вада ды сена, ніяк не давядзеш жывот цёлкі да парадку і расьце яна ад таго кепска. Стала бруха вялікае і поўсьць доўгая. Калі ўжо пашоў цёлцы 3-ці м-ц, у гэты час ацялілася ў мяне карова, тады прыбавіў я цёлцы малака. Цёлка ў тыдзень паправілася і стала расьці, як на дражджах. Цяпер яна дагнала сваю норму.

Гэтыя досьледы паказваюць, як важна злучацца хаця ў гуртгі, дзе лягчэй вывучацца і дзяліцца ведамі. Цяпер мы маем лубін (аб чым у нашым кутку амаль і ня чулі), караньплоды, гародніну і канюшыну. На выстаўцы мы атрымалі дыплём 1 ступені. Паставілі дойных кароў на досьлед і карова Д. Аўсянікава, што давала 13 ф. малака стала даваць 22 ф. Цяпер ня мы паглядаем на суседзяй, а яны ў нас вучацца. Навукова-Дасьледчы Інстытут шле нам насеньне, як дасьледчыкам.

**С.-Дасьл. Б. Сьлянскі.**

(Х. Тадуліна).

# Барануйце сваечасова папарнае поле.

Наглядаючы ў мінулыя гады за сялянскім папарам, я зьвярнуў увагу на тое, што большасьць сялян за ўсё лета не забараноўваюць зразу пасьля ўзворваньня свайго папару, а пакідаюць яго ляжаць на тыдні 4-6.

Такі спосаб апрацоўкі папару няправільны і шкодны, асабліва ў сухі летні час. Пакінутае поле ў скібах мае няроўную паверхню і вельмі моцна сохне, асабліва, калі глеба глiністая, або суглiністая, дык пасьля яна вельмі цяжка апрацоўваецца. Акрамя таго, завораны гной таксама высыхае і шмат губляе сваіх каштоўных для расьліны матар'ялаў—азоту і інш. Пры заворцы гною неабходна каб хто-небудзь ішоў уперадзі і са скібы зграбаў гной у разору, такім чынам гной вельмі добра заарэцца. Галоўная мэта папару заключаецца ў тым, каб падрыхтаваць добра глебу для росту азіміны. Для гэтага трэба: 1) каб у глебе было сабрана шмат вільгаці для ўсходу насеньня, 2) каб глеба была пульхная і каб было загатавана ў глебе шмат пажыўных для расьліны матэрыі. Усё гэта дасягаецца тым, што поле павінна быць узарана ў час, калі глеба ня вельмі сырая і ня вельмі сухая. У першым выпадку глеба будзе мазацца, а ў апошнім будзе вельмі грудкаватая (глыбістая); каб гной не тарчаў з-пад скібы, поля пасьля ўзоркі зараз-жа трэба баранаваць і далей увесь час трымаць у пульхным выглядзе. Асабліва трэба баранаваць пасьля вялікіх дажджоў, каб зьнішчыць скарынку, а таксама і сьмяцьцёвыя травы.

Калі трымаць папар у такім выглядзе, дык ў глебе набіраецца шмат вільгаці, яна добра праветрываецца, награецца і робіцца пульхнай. Кепска апрацованы папар і ня ў час, мае мала вільгаці і вельмі грудкаваты, гной не гніе, а высыхае і ўмовы для росту азіміны вельмі нядобрыя. Зерне, папаўшы ў сухую глебу, доўга не прарастае і пад зіму ідзе ў кепскім выглядзе—ня ўруняўшы. У выніку чаго часта бывае недабор хлеба (ураджаю).

Пакідайце ў скібах глебу з восені. Скібы добра вымачаныя асеньнімі дажджамі добра перамерзнуць і вясною будуць затрымоўваць сьнегавую ваду. Акрамя таго, вясною пласты лепш прасыхаюць і можна раней ўзяцца за апрацоўку, але толькі вясною ня трэба яе перасушыць і ў час заскародзіць, а то яна высахне ў грудкі і ўся асеньняя апрацоўка прападзе дарма.

Сел. **А. Карнейчык.**

---

# Як трэба даглядаць за турнэпсам.

*(З практыкі).*

Да 1927 году, я аб кораньплодах амаль што нічога ня ведаў. Але дзякуючы нашаму мясцоваму аграному, які ў нашай вёсцы вёў агітацыю за пасеў кораньплодаў, я гэтым зацікавіўся і захацеў спрабаваць ці будзе ад іх карысьць. Вясною леташняга году ў кааператыве купіў некалькі грамаў насеньня турнэпсу разам з сваім суседам і пасадзіў яго на градзе, даўжынёю ў 5 мэтраў і шырынёю ў 1 мэтр. Сусед таксама пасеяў турнэпс і на такой-жа плошчы. Праз некалькі дзён турнэпс пачаў узыходзіць. Вясна была мокрая, дзякуючы чаму ў разорах грады пачало зьбірацца шмат вады. Баючыся, што турнэпс вымакне, я ўзяў паглыбіў разоры, а таксама спусьціў ваду на поплаў. Як турнэпс крыху падрос,

я яго. абгледзіў і ўбачыў, што ён надта густа прарос і ўвесь быў заглушан рознай травой. Тады вечарам (бо стаяла сухая пагода і днём турнэпс мог пасохнуць), я з карэньнем вырваў усе шкодныя расьліны. Пасьля турнэпс прарэдзіў, так што каліва ад каліва пакінуў на адлегласьці 3-4 вяр. Пасьля поліва і прарэджваньня турнэпс асыпаў матыкаю. У пачатку ліпеня заўважыў, што ў некалькіх калівах турнэпсу былі паедзены лісьця, я абшарыў іх і ўбачыў на іх чарвякоў—вусеняў. Параіўшыся з адным дзядзькам, я пакрапіў турнэпс мешанінаю з попелу і вапны. Вусьні былі зьнішчаны. Аднаго разу пасьля дажджу на градзе з турнэпсам стварылася скарынка. Каб у глебу быў доступ паветра, я яе разьбіў матыкай, а таксама яшчэ раз зрабіў абсыпку. Мой турнэпс шпарка рос і ў канцы ліпеня карані яго дасягалі 5-6 ф. вагі. Увосень карані дасягалі 10-11 ф. вагі. Іх надта добра елі каровы. Мой-жа сусед за сваім турнэпсам наглядаў, але прарэджваць шкадаваў і за тое ўвосень сабраў не турнэпс, а ніткі. Карані яго былі невялікія, як морква сярэдняй велічыні.

У гэтым годзе турнэпсу я пасеяў ужо больш, бо толькі такім чынам можна забясьпечыць жывёлу ад бяскорміцы.

Сел. **С. Астрэйка.**

(в. Каласоўшчына,
Копыльск. р.).

---

# Як я навучыўся даглядаць за бульбай.

У мінулым годзе я атрымаў кнігу ў чырвоным кутку аб бульбе і яе культуры: «А. Г. Лорх і Г. М. Мірзоеў». Кніжку я хутка прачытаў і зацікавіўся гэтакім доглядам за бульбай, які там раіўся. Я захацеў зрабіць досьлед, каб упэўніцца, ці будзе ад такога догляду карысьць, параўнаўшы з звычайным сялянскім доглядам за бульбай.

Дзеля гэтага я адвёў кавалак зямлі са схілам на захад і разьбіў яго на 4 роўныя дзялянкі, ў кожным па 60 кв. саж.

| |
|---|
| Дзялянка з звычайным сялянскім доглядам. Атрымана 35 пуд. |
| Абаронная палоска. |
| Дзялянка з бульбай з такім доглядам, як раілі даглядаць Лорх і Мірзоеў. Атрымана 50 пуд. |

Кожная дзялянка была па 60 кв. саж., а абаронная палоска 1 саж. ў шырыню. Такім чынам разьбіўшы кавалак зямлі на чатыры роўныя часткі, я пачаў адначасова садзіць бульбу ў разьліку 100 пуд. на дзесяціну. Над дзьвёх дзялянках я рабіў такі догляд за бульбай, як раілі даглядаць А. Лорх і Мірзаеў. Гэта вось як: праз некаторы час пасьля пасадкі, калі на глебе пачала вытварацца скарынка, я ўзяў прабаранаваў драўлянай бараной удоўж і ўпоперак, для таго, каб глеба знаходзілася ў пульхным стане, каб было магчыма ў глебу праходзіць вадзе, паветру і цяплыні і каб пазбавіцца ад зельля. Праз некаторы час пасьля першага баранаваньня, бульба пачала ўсходзіць. Як вышла ўся бульба, і дасягнула 2 вярш. у вышыню, тады я прабаранаваў другі раз, таксама драўлянай бараной

па два разы ўпоперак і на гэтым баранаваньне закончыў. Праз некаторы час, калі бацьвіньне бульбы дасягнула $3\frac{1}{2}$ вярш. і баранаваць ужо было нельга, дык я пачаў рабіць асыпку бульбы. Асыпаньне рабіў ручной матыкай, як і раілася ў кніжцы. Ручное асыпаньне робіцца вакол кожнае расьліны (коннае-ж асыпаньне, як вядома, толькі з двух бакоў). Зрабіўшы асыпаньне, я хуткім часам пільна праглядаў кожную расьліну і хутка распраўляў засыпаныя. Матыкаваньне рабіў тры разы за лета. Гэта рабіў да таго часу, пакуль бульба зацьвіла. Бацьвіньне я ня зжынаў.

Звычайны-ж сялянскі догляд за бульбай на дзьвёх дзялянках быў вось які: пасадзіўшы бульбу, ніякага догляду за ёю не рабіў пакуль бульба ня выйдзе. Як толькі бульба вышла, тады яе пабаранаваў па 2 разы ўпоперак. На гэтым баранаваньне і кончылася. Асыпаньне рабілася 2 разы за лета, конным асыпнікам. Бульбоўнік зжынаўся, калі толькі пажаўцеў.

Ураджай атрымаў значна неаднолькавы: на тых дзялянках, дзе догляд за бульбай быў такі, як раілі А. Лорх і Г. Мірзоеў, быў большы на 15 п. з дасьледчага вучастка, а ўсяго па 50 пуд. З вучасткаў-жа з звычайным доглядам толькі па 35 п.

Глеба і падрыхтоўка была аднолькавая. На гэтым кавалку зямлі, дзе быў досьлед, глеба была супяшчаная.

Цяпер я даглядаю за бульбай так, як раілі А. Лорх і Г. Мірзоеў. Раю сялянам спрабаваць такі догляд.

Сел. **М. Драздоў.**

(Вёска Лехаўе,
Межэнск. раён.).

## Што нам дае торп.

Навокал нашай вёскі большасьць балота, чымся палявой зямлі. Раней балота было кепскае і не карыснае, але пасьля таго, як арганізавалі мэліорацыйнае таварыства, дык балота стала карысней у шмат разоў. Аб тым, што дае балота, дык і гаварыць ня прыходзіцца; яно дае шмат чаго каштоўнага гаспадарцы, але трэба сказаць, што найвялікшую карысьць дае торп, глеба гэтага балота). Па-перш, трэба сказаць, што торп—добры апал. Па-другое, ён дае добрае ўгнаеньне нашым палём. Што апал з яго добры, дык аб гэтым сьведчыць нядаўна арганізованае тарпянае таварыства. У гэтым годзе ў т-ве накапалі 30 кубаў торпу, які надта прыгадзіўся ў апал паравых млыноў і сялянскіх хатніх печак. Ён каштуе 20 р. куб.

Амаль што каля кожнай вёскі ёсьць балота і кожны гаспадар можа загатаваць сабе на зіму торпу, каб без бяды забясьпечыць сябе на зіму апалам. Таксама нашы сяляне яго ўжо дасканала ўжываюць як угнаеньне. Селянін нашай вёскі Павел Шаўкачоў на свой шнурок навазіў гэтага гною і пасеяў жыта, якое было ў 2 разы лепшае за пасеянае на няўгноеным шнуры.

У мінулым годзе мы паспрабавалі яго ўжываць на падзолавай глебе, але там ён ня даў амаль што ніякай прыбаўкі. На пяшчаных глебах, наадварот, ён прыносіць вялікую карысьць, а так як у нас глебы больш пяшчаныя, то мы і будзем ужываць тарпянае ўгнаеньне.

Возім торп мы і на двор, тут ён добра перапраўвае з саломай і лепш за ўсё ідзе пад гародніну. Вясною я яго падклаў пад караньплоды. На балоце ў нас торп мае таксама вялікую карысьць. Па-першае, што 4 дзес. ў мінулым г. па майму падліку далі 240 пуд. канюшыны з 2-х укосаў. На торпе-ж добра расьце і турнэпс. У мяне адна яго штука дасягала 6 фун., а калі быў подсып пяску, то ён быў-бы і 10 фун. Сяляне нашай вёскі к будучаму году думаюць арганізаваць у сябе торп. т-ва, каб зьнішчыць недахоп у апале, бо дроў купіць вельмі цяжка.

Як відаць, карысьць ад торпу вялікая і яго трэба толькі навучыцца скарыстоўваць, тым больш, што ён у нас пад бокам.

Сел. **А. Карунчыкаў.**

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 100. Дзейнасьць сельска-гаспадарчага каляктыву, які быў утвораны на вучастку дзяржаўнае зямельнае маемасьці, спынена была па пастанове акруговага выканаўчага камітэту з прычыны безгаспадарчых адносін каляктыву да будынкаў і садоў, пераходу ад грамадзкага выpaбу зямлі да асабовага і, наогул, невыкананьня статуту. Пры ліквідацыі каляктыў не захацеў вярнуць зямлю, інвэнтар і будынкі зямельнаму воргану. У якім парадку можа быць зроблена адабраньне інвэнтару і зямлі з карыстаньня членаў быўшага сельска-гаспадарчага каляктыву і высяленьне іх з будынкаў, якія ўваходзяць у склад дзяржаўнае зямельнае маемасьці. Каму падсудны таксама іскі аб высяленьні быўшых сяброў сельска-гаспадарчага каляктыву, выключаных з яго складу, калі гэтыя іскі зьвязаны з спрэчкамі аб выплатах і стратах паміж каляктывам і яго быўшымі сябрамі, альбо з пытаньнем аб скасаваньні дагавору на дзяржаўную зямельную маемасьць. (Полацкая Акрземкамісія).

Адказ. Утвораны на вучастку дзяржаўнае зямельнае маемасьці сельска-гаспадарчы каляктыў, дзейнасьць якога спынена была пастановай акруговага выканаўчага камітэту з прычыны непільнаваньня каляктывам свайго статуту, павінен з моманту ліквідацыі зьвярнуць у распараджэньне зямельных ворганаў зямлю, а таксама інвэнтар, будынкі і іншую маемасьць. У выпадку невыкананьня гэтага абавязку сябрамі быўшага каляктыву, па іску зямельнага воргану альбо прызначанай ім ліквідацыйнай камісіі ў судовым парадку адбіраецца з карыстаньня быўшага каляктыву зямля, будынкі і іншая дзяржаўная маемасьць, бо адміністрацыйны парадак высяленьня ня вызначан законам для такіх выпадкаў. Што-ж тычыцца да падсуднасьці іску ўрадавай установы аб адабраньні дзяржаўнае зямельнае маемасьці і адначасна падаваемага іску аб інвэнтару і будынках, а таксама аб скасаваньні дагавору на дзяржаўную зямельную маемасьць, дык на грунце арт. 141 і пункту „а" арт. 200 зям. код., гэты іск падсудзен у якасьці першае інстанцыі акруговай зямельнай камісіі. Яна-ж разглядае спрэчкі паміж сельска-гаспадарчым каляктывам і выключанымі з яго складу сябрамі аб высяленьні іх з будынкаў каляктыву, выплатах, стратах і ўсякіх узаемных падрахунках.

Пытаньне 101. Якая аплата робіцца пры адабраньні лішкаў зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак за адышоўшую канюшыну першага году, а таксама за канюшыну другога году. (Заслаўская райземкамісія).

Адказ. Калі пры адабраньні лішкаў зямлі ад буйнай гаспадаркі адойдзе да новага двара нескарыстаны ўкос канюшыны першага году, то ранейшы землякарыстальнік мае права скасіць першы год усю канюшыну, а за іншыя гады ніякай аплаты ён не атрымлівае.

Пытаньне 102. Ці можна лічыць безьзямельным і надзяляць з запаснага фонду зямлею такога сябра працоўнай земляробнай гаспадаркі, які падаў заяву сельскаму савету аб выключэньні яго са складу гаспадаркі. Між тым сябар гэты прадаўжае жыць у гаспадарцы і карыстацца ў ёй зямлею і маемасьцю.

Адказ. Сельскі савет не павінен выключаць у падворным сьпіску са складу двара такога яго сябра, які ў сапраўднасьці ня вышаў з яго, а хоча лічыцца толькі па дакумэнтах безьзямельным, каб атрымаць у першую чаргу надзел з запаснога фонду.

# Лясная гаспадарка

## Як праведзена сьвята „Дзень Лесу“ у Нараўлянскім лясьніцтве, Мазырскай акрузі.

24 красавіка г. г. ў правядзеньні сьвята «Дзень Лесу» прымала ўдзел звыш 90 чалавек сялян вёсак В. Млынок і Барбары. Апрача вучняў і вясковай моладзі на чале з камсамольцамі, удзельнічалі 20 сталых, пажылых гаспадароў з плугамі. Вучні пасьля азнаямленьня іх з пасевам хвоі, працавалі ў выхавальніку па абчыстцы лесу ад ламачча. Мужчы-



Пасеў лесу ў Нараўлянскім лясьніцтве ў сьвята „Дзень Лесу“ 1928 г.

ны-ж працавалі па падрыхтоўцы глебы пад пасеў і рабілі самы пасеў. Гэтакім чынам, было: а) ўзорана і падрыхтавана для пасева плошча каля 23 гектараў і значная колькасьць яе засеяна хваёвым насеньнем; б) ачышчана каля 5 гэкт. лесу і в) пакрыта мохам 1500 кв. мэтр. пасева ў выхавальніку.

**Эм. Ц.**

---

## Пытаньне і адказ па сельскай гаспадарцы.

Пытаньне 103. Ці можна на карысьць сябра, які выходзіць са складу двара, прадаць сялянскую маемасьць, пералічаную ў арт. 245 інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства за 12 сьнежня 1925 г. (Бягомльская райземкамісія).

Адказ. Абмежаваньні продажы маемасьці сялянскага двара выкліканы неабходнасьцю забясьпечыць магчымасьць вядзеньня гаспадаркі. Гэтыя абмежаваньні маюць абавязковы характар для ўсіх выпадкаў. Значыць, і на карысьць сябра, які выходзіць са складу двара, нельга прадаць маемасьці, пералічанай у інструкцыі Наркамзема за 12 сьнежня 1925 году.

---

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Аб натуральным залужаньні балот.

Існуе погляд, што каб перарабіць балота на луг, дык тут ніяк не абыйсьціся бяз штучнага залужаньня, інакш кажучы, трэба рабіць адпаведную мешаніну з лугавых траў і высяваць яе на балоце. У некаторых умовах гэта, бязумоўна, правільны погляд, але бываюць і іншыя выпадкі. Нашы балоты вельмі разнастайныя па сваім натуральным асаблівасьцям. З іх тып нізінных (лугавых) балот выдзяляецца сваім захаваным (потэнцыяльным) багацьцем. Багацьцё гэта выяўляецца, дзякуючы асабліваму палажэньню, у запасе некаторых попелавых элемэнтаў, якія спажываюцца расьлінамі. Гэта захаваная маса можа стаць вельмі карыснай, пад некаторым уплывам паветра-вадзяного рэжыму на тарпянік.

У артыкуле «Природа мелиорируемых земель и очередность работ» *), прыводзіцца шэраг апісаньняў розных балот. Гэтыя апісаньні сьведчаць з аднаго боку, аб натуры розных балот, а з другога, аб гаспадарчай каштоўнасьці іх. Пры гэтым можна заўважыць, што часта вельмі простыя работы па мэліорацыі, як напрыклад, рашчыстка і няпоўная асушка (вадаадводныя канавы), дапамагаюць утварэньню на балотах нізіннага (лугавога) тыпу,—натуральнага, каштоўнага па свайму складу і кармовай якасьці травастою. На балоце пачынаюць расьці такія лугавыя травы як мятліца (P. pratensis і P. palustris), палявіца (Agrostis alba) і аўсяніца (Festuca rnbra).

Процант гэтых траў у такім травастоі залежыць ад розных прычын: уплыў мае і тое, колькі год існуе дзярніна, і рэжым грунтовых вод, і спосабы скарыстаньня балотных сенажацей, напрыклад, пад часовыя выганы.

Прыклады, якія падкрэсьліваюць, што звычайнае, нікуды няварттае, куп'ем пакрытае балота (гл. фатаграфію) магчыма перарабіць у балотную сенажаць, можна ўбачыць на балоце селяніна вёскі Забалацьце, суседняга з Балотнай Гаспадаркай. На гэтым балоце, пасьля зьнішчэньня куп'я, пры наліччы аднае (галоўнае) канавы, магчыма стала сабраць у некаторых мясцох у адзін укос да 200 п. сена. Гэта адзін з прыкладаў, які сьведчыць аб значэньні экстэнсыўных спосабаў палепшаньня балот. У асабістых умовах гэтыя спосабы набываюць вялікае значэньне, з прычыны таго, што патрабуюць мінімальных сродкаў на асушку і наступную культуру. Разам з гэтым, павялічваючы колькасьць кармоў, задавальняюць, такім чынам, першачарговую патрэбу сельскага насельніцтва. Такое становішча вымагае зьвярнуць больш ўвагі на гэтае пытаньне і пачаць дакладнае вывучэньне балотнае гаспадаркі. Матар'ялы балотнае гаспадаркі, абмяжаванае тэрыторыі, у гэтым напрамку выяўляюць: 1) каштоўнасьць спосабаў павярхоўнага палепшаньня балот; і 2) ролю ўгнаеньняў і часу прыборкі на якасьць і колькасьць сабранага на балоце сена. Але гэтым тэма не абмяжоўваецца. Трэба ставіць досьледы над

*) Гл. часопіс „Советское строительство“ № 4 за 1927 г.

цэлым шэрагам, як паасобных так і камбінаваных спосабаў культуры балота і рабіць іх на працягу некалькіх год.

У балотнай гаспадарцы наглядаецца цікавае здарэньне натуральнага залужаньня балот. Яно выяўляецца ў тым, што пасьля азімых, а ў некаторых выпадках і пасьля выка-аўсянай мешаніны і аўсу, асабліва,



**Натуральны выгляд балота вёскі Забалоцьце да асушэньня і зьнішчэньня куп'я.**

калі гэтыя расьліны засяваюцца ў 2-гі і 3-ці год культуры балота, пачынае з восені (пасьля прыборкі) разрастацца падрад шчытная дзярніна. Роўная з вясны зелянь пачынае хутка адрастаць. У склад траў яе ўваходзяць: зязюлін цьвет (Lychnis flos cuculi) і збожжавыя: палявіца (Agrostis alba і A. Canina) і мятліца (Poa prat.). Такі травастой, дзе прымешана шмат разнатраў'я з панаваньнем казяльцу (Ranunculus repens і R. Flammula), незабудак (Miosotis palustris), маруны (Galium aparine) і іншых, выкарыстае бяз усякага пасеву, пасьля пераворкі тарпяніку і скарыстаньня яго пад культуры палявога кліну. Ад часу прыборкі залежыць колькасьць сена. Прытрымліваючыся некаторых правілаў, можна атрымаць у адзін укос ад 180 да 230 п. сена, у якім проц. збожжавых (палявіцы, мятліцы і аўсяніцы) хістаецца ад 50 да 75. У некаторых выпадках, калі пануюць збожавыя (мятліцца), пасьля ўнясеньня ўгнаеньня магчыма зьняць другі ўкос.

Здарэньні натуральнага залужаньня наглядаліся на розных вучастках у 1924, 25, 27 г. г., а спэцыяльна пакінуты ў 1927 г. вучастак (№ 5), дае штогодна два ўкосы. У прошлым, 1927 годзе, на чацьвёрты год карыстаньня, з яго сабралі ў два ўкосы, у пераводзе на гэкт. да 50 двайных цэнтн. (330 п. на дзес.). Склад сена: 64 проц. збожжавых і 36 проц. разнатраў'я. Адзначанае натуральнае залужаньне мае моц у працягу некалькіх год і пры калійным угнаеньні дае заўсёды добрыя ўраджаі. Яны

вельмі характарны для Забалацкага тарпяніка, які зьяўляецца вельмі багатым па сваім прыродным асаблівасьцям, хаця водны ражым яго вельмі не ўрэгуліраваны.

Цяпер робіцца зразумелай карысьць павярхоўных спосабаў палепшаньня, бо яны не патрабуюць вялікіх страт, а між тым мяняюць некарысныя балотныя травы, якія там растуць, на карысныя кармовыя расьліны.

Падкрэсьліваю, што гэта не агульнае правіла, але ва ўмовах некаторых масываў (Лукаўскі), яно можа быць прыстасавана. Такім чынам, можна сказаць, што:

1. разнастайнасьць відаў нашых балот, вымагае, пры вядзеньні працы па асушцы, у кожным паасобным выпадку розных спосабаў, у залежнасьці ад натуральна-гістарычных умоў.

2. распаўсюджаны ў нас тып нізінных балот, вельмі часта ў выніку прасьцейшых мэліорацыйных палепшаньняў, як, напрыклад, няпоўная асушка дае добрыя сенажаці і, такім чынам, падкрэсьлівае мэтазгоднасьць экстэнсыўных спосабаў культуры балот.

3. Эфект павярхоўнага палепшаньня і моманты натуральнага залужачьня падкрэсьліваюць, што трэба зьвярнуць увагу і высьвятліць гэтыя зьявішчы ў мясцовых умовах, бо калі зварачваць увагу толькі на інтэнсыўныя формы культуры балот, то справа можа аказацца аднабокай, а часам і непрактычнай.

**А. Шохар.**

---

**Увага:** у нумары 5 часопісі „Плуг“ на старонцы 28 друкарняй зроблены памылкі:

У першай табліцы

| *надрукована* | | *трэба* | |
|---|---|---|---|
| Адхіленьне ў % па гадам | У % да 100 | Адхіленьне ± у % | — адносна 100 |
| 10<br>10 | — | + 10<br>— 10 | 0 |
| 13,3<br>12,5 | 11 | + 13,3<br>— 12,5 | — 11 |
| — | 42 | — | — 42 |
| 14<br>18 | 50 | + 14<br>— 18 | — 50 |

У II табліцы, першая лічба, надрукована 125, а трэба 1125.

У апошняй графе

| замест | трэба |
|---|---|
| — | 0 |
| 14 | — 14 |
| 40 | — 40 |
| 60 | — 60 |



# Колькі можна атрымаць малака ад сялянскае каровы Горацкага раёну.

На Беларусі, у заходняй яе частцы, распаўсюджана рагатае малочнае быдла, якое дасьледавацелямі адносіцца да групы Чырвонага Заходня-Славянскага быдла, ці інакш, яно завецца Чырвоным каракарогім быдлам.

На усходзе Беларусі распаўсюджаны групы расейскага быдла. Каровы гэтых груп мала адрозьніваюцца адна ад другой, асабліва па сваім гаспадарчым якасьцям.

Рагатае быдла на Беларусі досыць даўно пачало паляпшацца скрыжваньнем кароў з быкамі чужаземных парод, чаму амаль ва ўсіх раёнах, можна знайсьці вялікі процант мясцовых кароў, маючых ў сябе кроў тае ці іншае чужаземнае пароды. Гэта мэтызыраванае быдла можна называць беларускім, бо яно з даўняга часу вядзецца на Беларусі і прывыкла да мясцовых умоў утрыманьня. Скрыжваньне паляп-



Добра абсталяваныя яслі для каровы.

шала мясцовы скот, але ад кепскага кармленьня і ўтрыманьня палепшаныя каровы не выяўлялі сваёй здольнасьці да вялікае малочнае прадукцыйнасьці.

Каб даведацца наколькі мясцовае беларускае быдла, палепшанае скрыжваньнем з быкамі чужаземнае пароды, дае больш малака, чым непалепшанае, на Вучэбнай фэрме Беларускай С.-Г. Акадэміі ў 1926 і 1927 гадох вяліся досьледы па кармленьню і ўтрыманьню розных мясцовых кароў Горацкага раёну.

Гэтыя каровы былі куплены на рынку ў сялян і ў бліжэйшых мясцовых гаспадароў. Больш танна, 50—60 р., былі куплены мясцовыя каровы, на якіх незаўважана прыліцьцё крыві паляпшаючай пароды. Жывая вага гэтых кароў была 17—19 пудоў. Каровы, ў якіх можна было дапусьціць прыліцьцё крыві чужаземных парод, былі жывою вагою ў 20—24 пуды, плацілася за іх 80—100 рублёў. Мэтысныя каро-

вы, меўшыя большаю часткаю ясна замечаную дамешку крыві швіцкае ці ангельскае пароды, былі жывою вагою ў 24—26 пудоў і за іх плацілася 125—160 і, нават, 200 рублёў за галаву.

У 1926 годзе былі на дасьледаваньні поўнасьцю цэлы год—37 кароў, а ў 1927 г.—32 каровы.

Можна заўважыць, што ў беларускіх непалепшаных кароў ад багатага кармленьня удоі атрымаліся нават у 1926 г. ў два разы большыя, чым ад такіх-жа кароў у сялянскіх гаспадарках, пры ўмовах сялянскага ўтрыманьня і кармленьня. Трэба пры гэтым сказаць, што каровы былі куплены худымі і іх прышлося падпраўляць. Ад лепшага кармленьня амаль ўсе каровы прыбавіліся ў вазе на 35—70 кілёграмаў.

Праз тое, што каровы былі ў пачатку досьледу ў 1926 годзе худыя, мы ня можам лічыць ўдойлівасьць кароў і іншыя вынікі, атрыманыя ад кармленьня ў першым годзе дасьледаваньня, рашаючымі. 1926 год дасьледаваньня быў толькі падрыхтоўчым. Поўную малочную прадукцыйнасьць карова можа паказаць толькі тады, калі яна досыць сытая, калі ў пэрыяд сухастою, тэрмін якога ня менш 2-х месяцаў, карова багата кармілася.

Гэтыя ўмовы былі намі захаваны ў першым годзе дасьледваньня. У другім-жа, 1927 годзе мы можам лічыць досьлед досыць падрыхтаваным для атрыманьня рашаючых вынікаў, хаця для праверкі гэтых вынікаў досьледы будуць весьціся і ў 1928 г. (Трэба адзначыць, што досьледы вядуцца ў гаспадарчых умовах, а не ў лябараторна-вопытных).

Кармленьне кароў у 1927 годзе было такое-ж самае, як і ў 1926-м, але за год скормлена большая колькасьць корму, чым у 1926 годзе таму, што каровы павялічылі сваю ўдойлівасьць у сярэднім на 40 проц. Між тым бялковы стасунак у кармовых рацыёнах застаўся ранейшы 1: 5, г. з., што на 1 частку ператраўліваемых бялкоў у корме было 5 частак безазоцістых матар'ялаў.

Мясцовыя, непалепшаныя каровы прыбавілі малака ў сярэднім ня болей як на 20 проц., затое каровы, у якіх ясна відаць прыліцьце крыві чужаземных парод, павялічылі ўдойлівасьць на 38—70 проц.

Мясцовыя каровы далі ў сярэднім 2.300 кілёграмаў малака (180 вёдзер), каровы-ж палепшаныя далі ў сярэднім—3.300 кілёграмаў (260 вёдзер) малака.

Каб выявіць эканамічную выгаднасьць утрыманьня кароў, мы зробім падлік, які прыбытак даюць ў нас каровы.

Прыводзім невялічкую табліцу гэтых падлікаў для кароў больш ўдойлівых і менш удойлівых. Выдатак па ўтрыманьню каровы мы падзелім на дзьве часткі; адна частка—кошт корму—будзе розная для кожнае асобнае каровы, таму што карова зьядала ў год розную колькасьць кармоў, другая-ж частка—гэта выдаткі па дагляду за каровою, па аплаце памяшканьня, асьвятленьня, лячэньня, па ўтрыманьню адміністрацыі і інш. Гэтая апошняя частка па нашым арганізацыйным падлікам раўняецца 115 руб. на кожную карову і будзе для ўсіх кароў аднолькавай; мы яе ў табліцы ня зьмешчаем, таму што ў селяніна гэтыя выдаткі будуць нязначныя.

Сабекаштоўнасьць аднаго кілёграма малака ў нас раўняецца, па арганізацыйнаму разьліку, пры сярэднім удоі 2.300 кгр. ад каровы—11 кап. і ў сярэднім за год, па такой цане ў нас прадаецца малако. Гэта значыць, у нас карова, якая дае ў год 2.300 кгр. малака, ня дасьць

ні прыбытку, ні страты. У селяніна-ж, можна лічыць, яна дасьць 115 руб. прыбытку.

Арганізацыйныя цэны кармоў у нас прыняты такія за 1 кгр.: сена канюшыннае—2,5 кап., палова аўсяна-пшанічная—1 кап., яравая салома—1 кап., кармовыя буракі і турнэпс—0,7 кап., бульба дробная—1,3 кап., пшанічныя высеўкі—6 кап., субарная мука—8 кап., макуха канапляная—6 кап., макуха ільляная—7 кап., кошаная сеяная трава—0,5 кап., пасьцьбішчная трава—0,4 кап.

| №№ | Назва каровы | Гады | Кошт корму | | Атрымана малака кілёгр. | Кошт корму | | Прыбытак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | Кап. | | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| 1. | Эля | 1926 | 109 | 39 | 2172 | 238 | 92 | 129 | 56 |
| | | 1927 | 144 | 38 | 2740 | 301 | 40 | 157 | 02 |
| 2. | Надзея | 1926 | 134 | 89 | 2062 | 226 | 82 | 91 | 93 |
| | | 1927 | 165 | 17 | 3159 | 347 | 49 | 182 | 32 |
| 3. | Хвіліна | 1926 | 162 | 20 | 3495 | 374 | 45 | 212 | 25 |
| | | 1927 | 205 | 15 | 4324 | 475 | 74 | 270 | 59 |
| 4. | Тулія | 1926 | 155 | 46 | 2639 | 290 | 29 | 134 | 83 |
| | | 1927 | 214 | 84 | 4500 | 495 | 10 | 280 | 26 |

Лічбы паказваюць, што пры значна большым выдатку на корм, каровы ў 1927 годзе ўсё-ж далі большы чысты прыбытак, чым ў 1926 годзе.

З табліцы відаць, што з павялічэньнем ўдойлівасьці каровы, павялічваецца ад яе і чысты прыбытак. Удойлівасьць-жа каровы павялічваецца ад багатага кармленьня. Відавочна, ёсьць пэўны сэнс карміць кароў багата.



Пры сялянскім доглядзе: палепшанае пароды—130 вёдзер. звыч. сялян. карова—108 в.



Пры правільным доглядзе: палепшанае пароды—260 вёдзер. звычайная сялянская карова—180 вёдзер.

Сяляне Горацкага раёну могуць атрымаць ад сваіх кароў адразжа, бяз усялякага палепшаньня скаціны, не 80 вёдзер ў год малака ад каровы, як гэта бывае ў большасьці выпадкаў цяпер, а 157 вёдзер. Для гэтага трэба толькі лепш карміць кароў. Але дзякуючы таму, што ў шмат якіх сялян ёсьць каровы палепшаныя прыліваm крыві ад бы-

коў замежнае пароды, дык ад гэтых кароў яны маглі-б мець ў год малака ня менш 3.000 кгр. (240 вёдзер), каб яны кармілі сваіх кароў так, як яны кормяцца ў нас.

Ці было-б гэта выгадна сялянам?

Бясспрэчна, што так. Перш за ўсё, тыя 115 р. выдатку, якія ў нас ідуць на карову ў выглядзе платы: за рабочую сілу, адміністрацыі, утрыманьне канторы і інш., засталіся-б у кішэні сялянства. Апрача таго, у сялянства застаўся-б чысты прыбытак ад каровы і яшчэ добрая плата за сена, салому, мякіну, дробную бульбу і г. д. Уся справа пры гэтым ва ўмелым кармленьні кароў і ў наліччы патрэбных запасаў кармоў. Больш цёплы кароўнік, які патрэбен для добрага ўтрыманьня кароў, кожны селянін сам можа абсталяваць.

Але як дастаць жмыхаў, вотрубяў, як прадаць больш выгадна малако? Адказ павінен быць вядомы кожнаму селяніну. Усё гэта магчыма зрабіць праз каапэрацыю. Жмыхі і вотрубі можна атрымаць ў крэдыт у каапэрацыі і малаком аплаціць узяты крэдыт. Усе ўмовы для выгаднейшага ўтрыманьня кароў цяпер ўжо маюцца ў наліччы. Трэба толькі з'арганізавацца і ўпарта дабівацца палепшаньня сваёй малочнай жывёлагадоўлі праз каапэрацыю. Калі каапэрацыя дрэнная, дык і яе трэба палепшыць. Улада ў гэтай справе ахвотна дапаможа.

Нашы досьледы па ўтрыманьню мясцовых кароў Горацкага раёну добра было-б праверыць і падцьвердзіць другімі досьледамі і ў другіх раёнах. Гаспадарчы вопыт, які мы правялі, патрабуе толькі акуратнага ўзьвешваньня корму і малака.

**Дацэнт Т. Паўлаў.**

**(Горы-Горкі, Сел.-Гасп. Акадэмія).**

---

# Захоўваньне зялёнага корму на зіму.*)

*(Халоднае сіласаваньне).*

Пры сучасным росьце палявое прадукцыі вельмі востра стаіць пытаньне аб здавальняючым захаваньні кармоў для забясьпечаньня жывёлы ўзімку. Толькі правільным вырашэньнем кармовага пытаньня можна прасунуць уперад інтэнсіфікацыю сельскае гаспадаркі. Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на забяспечаньне жывёлы кармамі, багатымі бялкамі. Гэта пытаньне вырашаецца вельмі добра ўлетку, калі жывёла ходзіць па пашы, ці калі яна атрымоўвае зялёную падкормку ў хляве. Якое вялікае значэньне мае зялёны корм для жывёлы паказвае і тое, што самыя лепшыя пароды ў сьвеце стварыліся там, дзе была вялікая добрая і сакавітая паша. Каровы, як бы багата не карміліся сухім кормам у хляве, з выганам на пашу пачынаюць раздойвацца, г. з. павялічваць удой. Зялёны корм робіць надзвычайна добры ўплыў на малочную прадукцыю. Як дыэтычны корм, зялёная трава грае вялікую ролю. Усе трыбуховыя хваробы жывёлы бываюць ад недахопу ці, проста кажучы, ад адсутнасьці ўзімку зялёнага корму. Толькі з вясны на пашы хворая жывёла пачынае апраўляцца і выздароўліваць.

---

*) З артыкулу С. Журыка: „Халоднае сіласаваньне“ зьмешчанага ў часопісі „Сельская і Лясная Гаспадарка“ № 1-1928 г.

Ведаючы такое вялізнае значэньне зялёнага корму, трэба шырока разгарнуць пытаньне аб забясьпечаньні гэтым кормам жывёлы на працягу ўсяго году, а ня толькі ўлетку. Забясьпечыць жывёлу ўзімку зялёным сакавітым кормам можна толькі праз сіласаваньне сакавітых кармоў. Як спосаб сіласаваньня, у сучасны момант мае вялікае значэньне халоднае сіласаваньне. Халоднае сіласаваньне, як мы ўбачым далей, акрамя таго, што захоўвае зялёны сакавіты корм на зіму, мае вялікае значэньне яшчэ і таму, што пры ім ня траціцца, ці траціцца вельмі мала спажыўнай матэрыі, чаго ня бывае пры прыгатаваньні сена.

Асабліва важнае значэньне набывае халоднае сіласаваньне для Беларусі. Яе досыць вільготны і пасмурны клімат дазваляе вырашчываць багатую расьлінную масу, але часта не дае мажлівасьці прыгатаваць добрае сена, асабліва гэта адчуваецца ў тыя часы, калі ідуць беспераппынныя дажджы. Пышныя зялёныя расьліны, а таксама і бацьвіньне корань і клубень—плодаў пры засіласаваньні будуць самым каштоўным кормам для нашае жывёлы. Можна засіласоўваць розныя дзікія травы, тэхнічныя адкіды, загніваючыя корань і клубень-плоды. Усё гэта ў выніку сіласаваньня дае добры корм.

Ёсьць шмат розных спосабаў сіласаваньня, але ў сучасны момант усе мэтады сіласаваньня дзеляцца на дзьве групы—гэта халоднага сіласаваньня і цёплага.Пад халодным сіласаваньнем разумеюць засіласоўваньне пры тэмпэратуры ад 0° да 25° С, а пад цёплым ад 25° С і да 50° С. [1]). Асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе мэтад халоднага сіласаваньня, які ў апошняе дзесяцігодзьдзе добра вывучан і раіцца для ўжываньня.

Па спосабу цёплага сіласаваньня раіцца засіласоўваць толькі расьліны кіслых злакаў ці хвашчы, каб ад высокае тэмпэратуры зьнішчыліся атруты гэтых расьлін. Па цёпламу спосабу раіцца засіласоўваць і гатаваную бульбу, бо яе асаблівыя фізычныя ўласьцівасьці гэтага патрабуюць.

Асноўнаю мэтаю сіласаваньня зьяўляецца захаваньне сочнага корму на працягу доўгага часу бяз страты яго спажыўнае каштоўнасьці.

Гэтага можна дасягнуць пры сіласаваньні, калі зразу пасьля кашэньня скарыстоўваць траву для закладкі ў сілас. Асабліва вялікая страта спажыўнае матэрыі бывае тады, калі ў траве тэмпэратура падымаецца да 50° С., чаму пры цёплым спосабе сіласаваньня куды больш траціцца спажыўнае матэрыі, чым пры халодным. Акрамя вялікае страты спажыўнай матэрыі, пры цёплым сіласаваньні адбываюцца яшчэ і другія шкодныя працэсы. Гэтыя недахопы можна зьнішчыць толькі засіласоўваючы корм па халоднаму мэтаду.

Што датычыцца да проценту вады ў сіласуемым корму, то яна пры халодным сіласаваньні ня грае вялікай ролі. Самае важнае пры сіласаваньні гэтае тое, каб корм быў добра ўтрамбованы ў непрасякаемыя для вады ямы і зьверху добра закрыты ад доступу паветра. Трэба таксама, каб было даволі рашчыняемых вугляродаў. Галоўным чынам, ад гэтых фактараў залежыць удалы ці няўдалы сілас.

Галоўным у сіласаваньні зьяўляецца хуткае вытварэньне малочнае кісласьці і, па мажлівасьці, чыстае. Гэтае пытаньне зусім добра вы-

---

[1]) Літара С. азначае назву градусьніка Цэльсія. 50 градусаў Цэльсія раўняюцца 40 градусам другога градусьніка, Рэамюра.

сьветлена. Высьветлена таксама і тое, што для ўдалага сіласу патрэбны анаэробныя ўмовы і лёгкарашчыняемые вугляводы і г. д. Ведаючы асноўнае пры сіласаваньні, трэба заўсёды імкнуцца да таго, каб па мажлівасьці скошаным расьлінам ня даць дыхаць. Гэтыя запатрабаваньні выконваюць рознымі спосабамі і з рознай пасьпяхоўнасьцю. У адносінах да гэтых выкананьняў усе спосабы, як ўжо ўпаміналася, можна разьдзяліць на дзьве групы—на цёплае сіласаваньне і халоднае сіласаваньне.

Некаторыя запатрабаваньні пры абодвых спосабах сіласаваньня бываюць аднолькавыя, як, напрыклад, патрабаваньне таго, каб у ямы ці вежы, у якіх засіласоўваецца корм, не праходзіла вада. Тут пажадана, каб не ўцякаў каморкавы сок з лёгкарашчыняемай спажыўнай матэрыяй, якая консэрвіруе корм. Пры уцечцы каморкавага соку замест яго ў сілас будзе праходзіць паветра, якое псуе сіласованы корм.

Каб лепш уявіць сабе значэньне халоднага сіласаваньня, разгледзім яго, раўнаючы з спосабам цёплага сіласаваньня.

Пры цёплым сіласаваньні скошаныя расьліны ў першыя часы лёгка згружаюцца ў яму, дзе ад уласнага дыханьня, а таксама і ад працэсаў, якія вызываюцца бактэрыямі пры доступе паветра, награваюцца. У другіх спосабах награваньне робіцца, напрыклад, электрычным токам, ці цёплаю параю і г. д. Пры цёплым спосабе сіласаваньня ўсё зводзіцца к таму, каб корм нагрэўся да 40—50° С. Гэты спосаб пабудованы якраз на працівалеглым спосабу халоднага сіласаваньня, дзе галоўная забота бывае аб тым, каб корм не нагрэўся вышэй 25° С.

Пры прыгатаваньні цёплага сіласу корм набіваецца ня зразу ў сіласы, а толькі пасьля таго, як ён правяне да ўтрыманьня ў ім 25—30% сухой матэрыі. Накладваецца корм лёгка, зразу вышынёю каля 1,5 м., не ўтрамбоўваецца і ня ўтоптаваецца да таго часу, пакуль тэмпэратура не падымецца да 40—50° С. Пасьля награваньня корм добра ўтрамбоўваецца, потым накладаецца новы пласт корму і г. д. Пры гэтым мэтадзе шмат траціцца матэрыі...

Сутнасьць халоднага сіласаваньня ў тым, што толькі скошаны сьвежы зялёны корм дробна рэжацца на сячкарні і зразу-ж укладваецца і ўтрамбоўваецца ў яму ці вежу, якая не прапускае вады; зьверху корм пакрываецца пластом тлустае (з малай колькасьцю пяску) гліны ў 30—40 см. таўшчынёю. Гліну заўсёды трэба трымаць вільготнай, каб яна ня трэскалася і не давала шчылін, бо праз шчыліны будзе праходзіць паветра. Корм абавязкова павінен рэзацца, хаця-б ён і мог нярэзаны добра ўтрамбоўвацца. Нярэзаны корм не выпускае зразу каморкавага соку, які патрэбен для разьвіцьця малочна-кіслых бактэрый. На такім карму зразу селяцца розныя шкодныя арганізмы, якія псуюць каморкі расьлін, і толькі ўжо з папсаваных расьлін выходзіць каморкавы сок. Дзякуючы таму, што пры халодным сіласаваньні правяльваньня корму ня бывае, дык траты ад дыханьня бываюць невялікія. У яму з утрамбаваным кормам тлён ня можа праходзіць, бо яма закрыта зьверху, а з сярэдзіны, па мажлівасьці, паветра выгнана, таму ад недахопу тлёну для дыханьня, расьліны адміраюць бяз значнае траты сваее спажыўнае матэрыі. Для добрага сіласаваньня раіцца наступныя тры запатрабаваньні: 1) абсалютна не працякаючая пасудзіна, 2) самае шчыльнае ўтрамбоўваньне добра зрэзанай сьвежа-скошанай травы і 3) поўнае ізаляваньне сіласуемага корму ад надворнага паветра. Калі гэтыя запатрабаваньні выканаць акуратна, можна атрымаць, амаль без усяе страты спажыўнае матэрыі, добра сіласаваны

корм. Тут ня бывае траты спажыўнае матэрыі таму, што тэмпэратура не падымаецца высока за недахопам тлёну. Яна не падымаецца вышэй як на 5° С. Надта добры ўплыў робіць прыбаўка кухоннае солі 0,2—0,5 проц. Сіласы пры такім спосабе заўсёды бываюць добрымі.

Пры цёплым сіласаваньні надта часта бываюць няўдачы пры прыгатаваньні сіласу, якія залежаць ад матар'ялу для сіласу, ад надвор'я і інш. З аднолькавым посьпехам можна засіласоўваць корм па халоднаму спосабу, як улетку, так і ўвосень. Пры цёплым сіласаваньні павінна быць вядомая колькасьць вады ў корме, вядомая правяленасьць і г. д. Таксама патрэбен вялікі навык, каб улавіць час, калі трэба касіць, калі трэба правялены корм закладаць ў сіласы і г. д. Нічога гэтага ня трэба пры халодным сіласаваньні. Тут запатрабаваньні надта простыя, прычым можна засіласоўваць розныя колькасьці корму, Трэба толькі яго дробна зрэзаўшы, улажыць у пасудзіну, у якую не праходзіць вада, добра ўтрамбаваць і пакрыць зьверху непрасякаемым пластом гліны. Мэтад гэты каштуе вельмі танна. Кожны гаспадар, які можа працаваць з пілою і малатком, можа пабудаваць у сябе з вельмі малай затратай сродкаў сілас, якога выстарчыць для сярэдняе фэрмы. Першы, пабудаваны хатнімі сродкамі, сілас сам дасьць гаспадару сродкі пабудаваць другі, а, разам з тым, дазволіць павялічыць колькасьць утрыманьня жывёлы.

Траты ў крухмальных эквівалентах пры цёплым сіласаваньні бываюць каля 30—40 проц., а пры халодным 5—15 проц.

Каб высьветліць значэньне сіласаваньня, прывядзем даныя аб траце спажыўнае матэрыі пры прыгатаваньні сена, параўнальна з сіласаваньнем.

Па-першае, трэба заўважыць, што ня ўсе расьліны можна высушваць на сена і ня з усіх іх мажліва прыгатаваць сена. Для прыгатаваньня сена патрэбны добрыя надворныя ўмовы. Засіласоўваць-жа можна ўсе сочныя кармы і яны маюць большую перавагу для спажывы с.-г. жывёлы, чым сена.

Пытаньне аб траце пры прыгатаваньні сена ўжо даўно вывучалася. Даказалі, што пры прыгатаваньні сена бываюць значныя траты спажыўнае матэрыі. Пры добрым надвор'і траты спажыўнае матэрыі бываюць ад дыханьня расьлін пасьля скосу і абламліваньня далікатных частак расьлін пры паварачваньні, укладцы і г. д. Адсюль відаць, што сена зьяўляецца больш грубым кормам, чымся трава, з якой яно прыгатавана.

Пры сіласаваньні з адзінкі плошчы можна больш чым у два разы сабраць спажыўнае матэрыі параўнаўча з прыгатаваньнем сена. Гэтая думка патрабуе вялікае ўвагі і дасканалых досьледаў, аднак можна напэўна сказаць, што сіласаваньне мае вялікае значэньне для сельскае гаспадаркі. Паўстае далей толькі пытаньне, якую частку травы трэба засіласоўваць і якую скашваць на сена. Бязумоўна, такія расьліны як кукуруза, бацьвіньне коранья і клубень-плодаў могуць ісьці толькі на сіласаваньне. Сена-ж можна гатаваць з расьлін, здольных высыхаць. Сена патрэбна гатаваць як дыэтычны сродак, бо без яго трудна абыходзіцца пры кармленьні жывёлы. У Нямеччыне раяць для большай карысьці рабіць тры ўкосы, напрыклад, канюшыны. Першыя два ўкосы ідуць на сена, а апошні на сілас. Толькі ад маладое травы бывае добрае сена, а таксама сакавіты добры і высокакаштоўны сілас.

Скарыстаньне сіласаванага корму. Сіласаваны корм можа скармлівацца ўсімі відамі с.-г. жывёлы, але, галоўным чынам, ён зьяўляецца кормам для жвачных.

Лепшым кормам сілас будзе для быдла. Асабліва сілас каштоўны для малочнае жывёлы, бо ён як бы замяняе сабою майскую пашу. Добрым кормам сілас зьяўляецца і для авец. Сьвіньні таксама з вялікай ахвотай паядаюць сіласаваны корм. Ён годны толькі для племяных сьвіней, а для кормных на мяса не гадзіцца. Коням сілас даецца 3—5 кгр. сіласаванага корму ў дзень на галаву. Сіласам можна карміць птушак. Накармліваць жывёлу ўволю ня раіцца таму, што тады корму. На аўцу разьлік робіцца з гэтых-жа дадзеных. Сьвіньням даецца 3—5 кгр. сіласаванага корму ў дзень на галаву. Сіласам можна карміць птушак. Накармліваць жывёлу ўволю ня раіцца таму, што тады жывёла можа яго поўна зьесьці, ад чаго будуць паслабленьні і памяншэньне ператраўліваемасьці спажыўнае матэрыі.

Надта добра скармліваць сіласаваны корм з сечкай з сена, ці саломы, ці з мякінай. Раіцца скармліваць ня больш, як 50 кгр. сіласу на 1.000 кгр. ж. вагі для быдла і авец. Гэта складае 6,8 кгр. сухое матэрыі, ці палову дзённае дачы. У пераводзе на сілас гэта будзе 30—50 кгр. на галаву ў суткі. Для падсоснай, цяжарнай і растучай жывёлы раіцца даваць 15 кгр. сіласу на 1.000 кгр. ж. вагі. Гэтыя лічбы даюцца, як прыблізныя. Калі корм добра засілаваны, то яго можна задаваць самыя большыя дачы; калі-ж ён дрэнны, то трэба адпаведна зьмяншаць. Асабліва ня трэба даваць дрэнна прыгатаванага сіласу падсоснай, цяжарнай і маладой жывёле. Бязумоўна тут вялікую ролю мае яшчэ і тое, якая расьліна засіласавана, пры якім надвор'і яна вырасла, на якой глебе і г. д. Сілас з бульбянага бацьвіньня і бурачнага, бязумоўна, будзе горш, чым з травы добрае сенажаці ці канюшыны.

Сілас зімовай парой трэба скармліваць сагрэтым, інакш жывёла будзе прастужвацца. Таксама трэба, каб сілас адтаяў, калі ён замёрзлы. Ад сіласу, параўнаўча з сухім карменьнем, удой кароў павялічвецца на ½—2 літры малака ў суткі на карову. Калі даваць сілас, то ў хляве бывае кіслы пах. Трэба хлявы часьцей праветрваць. Трэба даваць мінэральныя кармы і кармовую вапну ці тоўчаны мел. Каровы, кормленыя сіласам, гладкія з бліскучаю шэрсьцю. Колькасьць тлустасьці ў малаку ад карменьня сіласам не павялічваецца. Якасьць тлустасьці ад сіласу паляпшаецца. Масла становіцца жоўтым, як улетку, калі каровы ходзяць па пашы.

Наогул, досьледы з карменьнем добра прыгатаваным сіласам паказалі, што ён ня робіць ніякага дрэннага ўплыву на малако, наадварот, ён вельмі паляпшае якасьць малочнае тлустасьці.

Сілас зьяўляецца такім добрым кормам, што ідзе на корм жывёле, ад якой атрымліваецца малако годнае для прыгатаваньня самага лепшага швэйцарскага сыру. У нас да апошняга часу трымаюца таго пагляду, што сіласаваны корм ня можа ісьці на корм каровам, малако якіх ідзе для сыру. Тут уся прычына хаваецца ў тым, як прыгатоўлен сілас. Калі ён прыгатаваны добра па халоднаму спосабу, то зьяўляецца лепшым кормам і пры гэтым ня робіць ніякага шкоднага ўплыву на якасьць прадуктаў і самую жывёлу. Але трэба адзначыць што сіласаваны корм ня можна задаваць ні ў час даеньня і ні перад, а пасьля даеньня.

Непасрэдныя досьледы з малаком ад кароў, што кормяцца сіласаваным кормам, паказалі палепшаньне дзяцей ад гэтага малака. Сілас, як корм, вельмі каштоўны для карменьня наогул падсоснай і растучай жывёлы ўсіх відаў.

Гэта надае сіласу надзвычайна важную ролю ў гадоўлі маладое жывелы [1]).

**N.**

---

# Вядзеце барацьбу за палепшаньне малака.

Адным з найлепшых спажыўных матар'ялаў для арганізму чалавека, як вядома, зьяўляецца малако і яго прадукты. Зьяўляючыся на сьвет, малады арганізм чалавека перш-на-перш корміцца малаком мацеры, замяняючы апошняе ў далейшым малаком каровы. Здавалася-б, што гэты важны прадукт—малако каровы, павінна высока цаніцца чалавекам і мець самы найлепшы санітарны догляд. У сапраўднасьці-ж гэта ня робіцца. Калі мы прааналізуем усю тэхніку даеньня і дастаўкі—увесь той шлях, які праходзіць малако, раней чым папасьці на стол гарадзкога спажыўца, дык убачым вельмі дрэнны малюнак. Дзякуючы няўменьню абыходзіцца з гэтым каштоўным для харчу прадуктам, у ім зьністажаюцца самыя цэнныя якасьці.

Адзіную сваю карміліцу—карову гаспадар трымае ў кепскім халодным хляве, у гразі, гнаі і тут-жа яе доіць. Выціснутае часта бруднымі пальцамі, пахучае, беласьнежнае малако раней чым папасьці ў дайніцу, праходзіць праз брудны кончык саска; затхлае, сьмярдзючае паветра памяшканьня, прасякае ў малако пры даеньні, ды і сама карова абмахваецца такім-жа брудным хвастом. Такім чынам, ужо пры дненьні ў малако пападае шмат усякай заразы. Далей малако ўліваецца ў нявываранную, часамі пракіслую пасудзіну, і працэжваецца праз забруджаную анучку ў збанок, куды аканомная гаспадыня вылівае з кубак вады, якою апаласкавае дайніцу. У такім выглядзе малако ўжываецца на вёсцы.

Але на гэтым шлях малака не сканчаецца, калі яно вязецца ў горад на продаж. Яно затыкаецца бруднай, часамі зробленай з саломы альбо травы і абверчанай анучкаю затычкай і, доўга плюскаючыся, накіроўваецца на кірмаш, пакуль, нарэшце, працярпеўшы ўсе пакуты, зьмяніўшы свой твар, яно апыняецца ў жбане пакупшчыка. Далей ужо пакупшчык панясе яго ў адчыненай пасудзіне, куды пападзе шмат пылу і бактэрыяў. Цяпер ужо малако канчаткова робіцца заразным. Прападае яго спэцыфічны пах і пажыўнасьць, зьмяняецца колер і г. д. Такое, зьмяніўшае свой выгляд малако трапляе ў чалавеччы арганізм, наперад пракіпячонае яшчэ ў печы, дзе агонь адбярае ад яго апошнюю каштоўнаньць. Такім чынам, здаровы арганізм прымае заражанае малако, дзякуючы негігіенычным умовам даеньня і перавозкі. Апрача гэтых умоў, ёсьць яшчэ і іншыя прычыны нягоднасьці малака, як напрыклад, малако ад хворай на сухоты (туберкулёзнай) жывёлы і г. д.

З разьвіцьцём навучальных дасьледаваньняў, людзі прышлі да выніку аб потрэбнасьці пільнага кантраліраваньня і аналізу паступаю-

---

[1]) Як пабудаваць сілас, будзе зьмешчана ў наступным нумары „Плуга".

чых у арганізм харчоў і асабліва малака. Справай гэтай займаюцца цяпер малочныя лябараторыі, якія праводзяць хімічныя дасьледваньні. Як зьнішчыць заганы малака ў гаспадарцы селяніна, ня раз пісалася ў часопісі «Плуг». Маем надзею, што і яшчэ гэта пытаньне будзе высьвятляцца аграномамі. Але патрэбен і сталы кантроль малочнага рынку, дзе-б магчыма было атрымліваць хоць напалову нармальнае, здаровае малако. Трэба павесьці рашучую барацьбу з праступнымі звычаямі прадаўцоў псаваць малако, праз разбаўленьне яго вадою, аздабленьне колеру штучнымі фарбамі, зьбіраньне верхняе часткі ў адстояным малацэ і г. д.

Улічваючы ўсю важнасьць і неабходнасьць санітарнага агляду рынку, у горадзе Віцебску катэдраю Агульнае Заотэхніі і малаказнаўства Вэт. Інстытуту, было высунута па гэтай справе пытаньне, якое ў свой час было распрацована Віцебскім Акрвыканкомам і праведзена ў жыцьцё ў форме абавязковае пастановы ад 6-га лютага 1928 г. Пры ўдзеле студэнтаў-практыкантаў катэдры малаказнаўства і лябараторных працаўнікоў, была зроблена 22-га лютага г. г. першая праца па абсьледваньню рынкаў, у прыватнасьці Магілеўскага, Полацкага і Смаленскага. Сялянам давалася дэталёвае тлумачэньне аб прычыне дасьледваньня і патрэбнасьці мець малочна-кантрольныя кніжкі, якія будуць сьведчыць аб якасьці малака.

На першы раз было ўзята каля 100 спроб. Затым праца пачала праводзіцца спэцыяльнай, асобнай, камандыраванай Акрвыканкомам, экспэдыцыяй. Калі-б былі патрэбныя сродкі ў малочнай лябараторыі, можна было-б рабіць ня толькі хімічныя дасьледваньні малака, але і бактэрыолёгічныя, на выяўленьне пошасных хвароб, якія перадаюцца праз малако.

Такую-ж важнасьць як санітарна-гігіенічны кантроль малака на рынках, мае вэтэрынарны, альбо кантрольна-асыстэнцкі нагляд над малочнай жывёлай на раёнах, каб захаваць здароўе жывёлы і павялічыць яе прадукцыйнасьць. У санітарна-дасьледчай працы малочнае справы павінны прымаць удзел ня толькі вэтэрынарныя, але і адпаведныя мэдычныя працаўнікі і ўстановы. Толькі агульная ўпартая праца вэтэрынарных і мэдычных працаўнікоў дасьць для насельніцтва здаровае, спажыўное малако і зьменшыць лік пошасных хвароб, якія праз яго перадаюцца.

**А. Белахвостава.**

(Віцебск. Вэт. І-тут).

---

# Як зьнішчыць заганы малака.

Малако псуецца, галоўным чынам, ад пападаньня ў яго бактэрыяў, якіх улетку ўсюды бывае шмат. Поўная чыстата—лепшы сродак атрымаць малако здаровае для людзей і добрае для выгаднай перапрацоўкі на масла, сыр і інш. рыначныя прадукты.

Перад даеньнем трэба вымыць рукі з мылам і надзець спэцыяльны хвартух. Вымя каровы падмываецца вадой і абціраецца дасуха і сухімі рукамі выдойваецца. Хвост трэба прывязаць да нагі каровы.

Малако выдойваць належыць у чыстую луджаную дайніцу. Перад даеньнем ня трэба пыліць і псаваць паветра ў хляве раздачай кармоў, чысткай кароў і інш.

Першыя кроплі малака трэба выдойваць пад ногі. Бруд, папаўшы ў малако псуе якасьць малака, надае яму заганы і запаўняе яго бактэрыямі, якія разам з пылам ці кавалачкамі бруду трапляюць у малако.

Пакуль бруд не разышоўся ў малаку, трэба абавязкова зьнішчыць яго працэжваньнем праз меднае ці валасянае сітачка. Каб зьнішчыць бруд, які распусьціўся ў малаку, трэба браць цадзілкі, маючыя сітачкі з ватай; вата затрымлівае шмат заразы і бруду.

Далей трэба асьцерагацца, каб бактэрыі, якія ўсё-ж такі знаходзяцца ў малаку, не расплоджваліся, або нават былі зусім забіты. Для гэтага трэба выдаенае малако зараз-жа астуджваць. Чым яно сьцюдзёней, тым менш псуецца.

Часам можна ўжываць і награваньне малака, якое ня толькі затрымлівае расплод бактэрый, але і зьністажае іх.

Можа і сьмешна будзе сялянцы чытаць аб парадах мыць вымя каровы, мыць з мылам рукі перад даеньнем і наогул трымаць чыстату ў гаспадарцы, але чыстата малака паможа пазьбіраць тыя дастаткі, якіх пакуль што малавата ў нашых вёсках.

Хто малаком можа і хоча ўзбагачваць сваю гаспадарку, той павінен ведаць, што псаваць усё яго стараньне можа той няпрыметны бруд, які нясе з сабой заразу і страты.

У чыстаце посьпехі малочнай справы.

**П. Л.**

---

# Як лячыць скаціну, калі яна аб'елася.

Ад атрутных траў часта бывае, што карову распушвае (уздуваецца жывот). Калі сваечасова ўзяцца лячыць гэтую хваробу, як трэба, дык ад яе нічога страшнага ня бывае. Але звычайна па нашых вёсках ня ўмеюць лячыць уздутую жывёлу; вельмі часта здараецца, што скаціна ад гэтага здыхае.

Распушваньне таксама бывае, калі скаціна аб'ядаецца зялёнай канюшынай, асабліва раніцай, па расе, ці зялёнай травой, якая доўгі час ляжала ў кучы і вельмі сагрэлася.

Траціць час пры гэтай хваробе нельга таму, што пры вялікім уздуцьці карова можа прапасьці праз некалькі гадзін.

Лягчэй і прасьцей усяго выпусьціць газы з раздутага чэрава, пракалоўшы яго спэцыяльным інструмэнтам. Гэты інструмэнт завецца троакарам. Але троакар на вёсцы ёсьць толькі ў вэтэрынара, ды і карыстацца ім трэба ўмеючы.

Калі троакара няма, а скаціне прыходзіцца вельмі кепска, прыдзецца селяніну рыскнуць і пракалоць трыбух простым вузкім нажом (складным) ці даўгім шылам. Рыск вялікі, але ўсёроўна пры вялікім разьвіцьці хваробы жывёліна здохне.

Чым-бы не пракалваць,—трэба інструмэнты абеззаразіць ці ў вары, ці над агнём, ці абмываючы ў якім-небудзь абеззаражваючым лякарстве.

Калоць трэба з левага боку чэрава, там, дзе знаходзіцца, так званая, галодная ямка. Пры распушаньні гэтай ямкі ня відаць, а самы жывот робіцца як бубен.

Калі чэрава будзе праколата, ня трэба вымаць нож ці шыла з ямкі, пакуль будуць выходзіць газы; пасьля таго, як газы выйдуць, і чэрава ападзе, трэба заляпіць ранку ліпкім ці дзягцярным плястырам.

Але рабіць такую апэрацыю трэба толькі ў крайнім выпадку, калі блізка няма вэтэрынара, а хвароба хутка разьвіваецца.




Левая пахвіна жывелы знадворку. А—кружок на левой пахвіне паказвае месца, куды ўбіваецца трыканцік альбо нож.




Выгляд чэрава каровы з сярэдзіны: 1—костка паясьніцы, 2—левая нырка, 3—трыканцік загнаны ў трыбух, 4—левы бок чэрава, 5—правая нырка, 6—правы бок чэрава з кішкамі.

Калі бруха раздуваецца паволі, можна папрабаваць другі спосаб.

Па-першае за ўсё трэба надаўліваць абедзьвума рукамі на левы бок чэрава. Каб жывёліна не павалілася, з правага боку становіцца хто-небудзь і падтрымлівае яе.

Затым трэба моцна расьціраць і разьмінаць левы бок чэрава, паліваць часта халоднай вадой і расьціраць пучкамі грубага сена ці саломы.

Зараз-жа, як толькі жывёла захварэе, трэба зрабіць ёй клізму з мыльнай вады. Вада павінна быць цёплая, якая стаяла ў хаце ўсю ноч. Прамыўку трэба рабіць кожны час, пакуль ня выйдуць газы. У сярэдзіну даюць слабіцельнае 1½ ф. (620 грам.) глаўберавай ці ангельскай солі, распусьціўшы яе ў 2—3 бутэльках вады.

Па выздараўленьні, даюць скаціне ў харч толькі лепшае і зусім сухое сена, а зялёнага харчу некалькі дзён ня трэба даваць.

Кожнаму гаспадару трэба памятаць, што т р о а к а р—лепшы спосаб змаганьня з уздуцьцем жывёлы, дзеля чаго неабходна ў кожнай вёсцы мец такі інструмэнт і навучыцца, як п р а б і в а ц ь  і м  б р у х а  ў  с к а ц і н ы.

**Вэтэрынарны ўрач М. Жарын.**

---




# Аб пабудове агнятрывалых будынкаў з гліны.

У цёплых старонках, як напрыклад Украіна, дык там амаль што ўсе будынкі пабудаваны з гліны. Чаму гэта так? Самае галоўнае, што няма лесу, ды няма і карысьці будаваць з дрэва, бо і з гліны добры будынак выходзіць. Іх хутка можна збудаваць і яны не баяцца чырвонага пеўня.

Настае час, што і нам, беларусам, трэба брацца за гліну, бо і ў нас не хапае лесу для ўсіх патрэб.

Калі гутарыш з селянінам аб гліняных будынках, дык часта чуеш адмоўнае разважаньне, што яны разваляцца. Праўда, мы жывём ня ў вельмі цёплай старонцы, але і ў нас ужо ёсьць шмат будынкаў збудованых з гліны, якія стаяць дзесяткамі год і не развальваюцца, а гавораць за тое, што, калі будынак збудованы правільна, дык ён і ў нашай Беларусі сябе вельмі добра апраўдвае.

Ад чаго бываюць няўдачы пры пабудове агнятрывалых будынкаў з гліны і як ад іх забясьпечыцца, мы ніжэй і пагутарым. А каб было больш зразумела, мы будзем браць практычна тых сялян, якія ўжо будавалі ды будынкі не ўдаліся. Ад чаго гэта здарылася?

Самае галоўнае, трэба пачынаць пабудову гліняных будынкаў з самай раньняй вясны. Самы лепшы час дзеля будаваньня іх гэта: май, чэрвень, ліпень і палова жніўня.

Чаму гэта так, а таму што пазьней збудаваны з гліны будынак ня высахне да зімы, а раз ня высах, дык ён не замацуецца, а наадварот, вільгаць захаваная ў гліне, замярзаючы зімою зробіць разбуханьне сьцен, а гэта і будзе прычынай развалу.

Селянін Віцебскай акругі, Суражскага раёну, вёскі Глазамічы, Макарэнка А. убачыў недзе, што будынкі з гліны добрыя і пачаў сам будаваць сабе хлеў, але будаваць пачаў увосень, у верасьні м-цы, будаваў сам і баба і зацягнуў сваю будоўлю аж да кастрычніка. А тут даху няма, пакуль дах прыстараўся, пачаў крыць і сьнег пачаў сыпацца. Працаваў чалавек ня мала, а карысьці ні на шэляг—усёроўна праз год або два гэты будынак развяліцца. А разваліцца ён таму, што да зімы будынак ня высах, зімой хваціў мароз і гліна не высахшая перамёрзла, цяпер лушчыцца, патраціла ўсю сувязь паміж сабою, сьцены сталі такія, што ткнеш у іх кіем, дык ён наскрозь свабодна праходзіць. Такія выпадкі з агнятрывалымі будынкамі выклікаюць да сябе адмоўныя адносіны ўсяго ваколічнага насельніцтва, у сялян адпадае ахвота будаваць агнятрывалыя будынкі з гліны.

Мы таксама скажам, што такая будоўля нікуды ня варта і гэтак будаваць—дарма траціць сродкі і працу. Акрамя будаваньня рана вясною, трэба пад агнятрывалымі будынкамі класьці добрую падмуроўку (фундамэнт) на цэлы мэтр у глыбіню. Самы лепшы грунт для падмуроўкі—гэта пяшчаністы. Пры ім можна падмуроўку рабіць на глыбіню ў зямлі 0,70 мэтр. (1 арш.). У тым-жа выпадку, калі грунт гліняны, дык трэба на 1 мэтр (22½ вярш.), г. зн., на тую глыбіню, дзе ўжо не прамярзае зямля. Калі-ж на глінiстым грунце палажыць падмуроўку менш чым 1 мэтр, дык тады гліна ад замаражваньня і адтайваньня пучыцца (разбухае) павялічваецца ў аб'ёме, а раз гэта робіцца, дык падмуроўка разбурваецца, а сьцяна будзе даваць шчыліны (трэшчыны).

Сялянства надта ня любіць класьці ў зямлю глыбока падмуроўку, па-першае ад таго, што глыбейшая падмуроўка даражэй абыходзіцца, а па-другое, проста ня ўсе ўразумелі гэту патрэбнасьць, разважаючы, што глыбокая падмуроўка гэта дарэмнае закопваньне ў зямлю дабра.

Упушчэньне робіцца і тым, што падмуроўка не падымаецца над зямлёю, ня робіцца, так званага, цокалю. Гэта вельмі кепска, бо зьнізу шмат вільгаці прасякае ў сьцяну. Ня трэба забываць зрабіць лёхі (аддушыны) у цокалі, дзеля праветрываньня абшару пад падлогай, бо калі гэтага не зрабіць, дык можа завесьціся вельмі дрэнная хвароба, так званы «дамавы грыбок». Гэта вельмі шкадлівая хвароба; у год два яна прынясе вялікую страту, ад яе вельмі хутка псуецца падлога, а зьнішчыць грыбок вельмі трудна.

Яшчэ сялянства робіць вялікую памылку, што ня робіць ніякай ізаляцыі, інакш кажучы, не кладзе па цокалі толі ці бярocты. Гэта патрэбна для таго, каб з зямлі не прасякала ў сьцены вільгаць. Бяроста ці толь (толь, гэта прасмолены тоўсты картон) кладзецца ў драўляных будынках. Пры пабудове-ж гліняных можна палажыць 1 см. таўшчынёй цаменту, зьмяшаўшы з пяском 1:1, адна частка цаменту і адна частка пяску. Цамент ужываецца і пры драўляных будынках. Калі ёсьць дык можна накрыць на цамент яшчэ бяростай.

Раней, чым будаваць агнятрывалы будынак, трэба паклапаціцца, каб было чым зараз-жа пабудаваўшы сьцены і накрыць іх. А то будзе так, як у памянёнага Пушкарэва з вёскі Лаза: закончыў хату гліна-гальлёвую, а страхі няма. Тут пашоў дождж і змыў сьцены.

Памятайце, што шчыкатурыць у першы год ня можна. Бо калі гэта зразу збудаваўшы зрабіць, дык яна патрэскаецца, таму што сьцены як патрэбна не аселі.

Трэба адзначыць, што ў глінабітны будынак ня можна ўсяляцца ў той год, калі ён збудаваны, з тэй прычыны, што ў непрасохлым памяшканьні будзе шмат вільгаці, а гэта адабецца як на даўгавечнасьці будынкаў, так і на здароўі жыхароў.

Вынікі з усяго наступныя:

1. Агнятрывалыя будынкі трэба рабіць вясною, як мага раней. 2. Класьці добрую падмуроўку на глінiстым грунце да 1 мэтра, на пяшчаным да 0,70 мэтр. 3. Трэба рабіць цокаль вышэй 0,50 мэтр. і ня менш як 0,30 мэтр. 4. У цокалі трэба рабіць лёхі, каб пад палом не заводзілася ўсякая гніль. 5. Раней, чым збудаваць будынак з гліны, трэба паклапаціцца, каб зараз-жа было чым яго накрыць. 6. Шчыкатурку трэба рабіць толькі праз год, калі будынак дасьць належную асадку. 7. Засяляць глінабітны будынак можна толькі праз год. Толькі ў саманны будынак можна ўсяляцца ў першы год, бо саман значна раней высыхае.

**Я. Талуціс.**

**(Вітакрза).**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Пажніўныя культуры.

Пажніўнымі культурамі завуцца такія расьліны, якія высяваюцца зразу пасьля прыборкі першага пасеву і ў тое-ж лета даюць другі ўраджай.

Натуральна-гістарычныя ўмовы Беларусі вельмі спрыяюць разьвіцьцю пажніўнай культуры. Так, па шматгадовым запісам навучальнае фэрмы Гары-Горацкае с.-г. Акадэміі відаць, што даўжыня вэгетацыйнага пэрыяду для Гары-Горак (усходняя частка БССР) дасягае да шасьці месяцаў (з 25 красавіка да 20 кастрычніка). Як нам вядома, жыта можа высьпяваць за 100 дзён, ад пачатку яго росту з вясны, а другія расьліны яшчэ скарэй, такім чынам, калі зрабіць пасеў другой расьліны зразу пасьля прыборкі жыта, то яна можа мець для свайго разьвіцьця блізка каля двух з паловай месяцаў. Пры сярэдняй цяплыні для першага пасеву ў 16,5° С. за 100 дзён яна дае суму ў (100×16,5)=1650°, а для другога,—пры сярэдняй цяплыні ў 14° С, сума складае (70×14)=980°. Хаця розьніца, як бачым, складае досыць значную лічбу, амаль не ў 1½ разы большую, але ўсё-ж сумы ў 980° цяплыні, пры адпаведнай колькасьці вільгаці, бывае досыць, каб даць значны ўраджай.

На Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі турнэпс, пасеяны пасьля жыта, даў блізка каля 800 пудоў добрага корму ў выглядзе карэньня. На Носаўскай дасьледчай станцыі пасаджаныя кармавыя буракі (эккендорфскіе) пасьля віка-аржанай мешанкі ў чэрвені, к восені далі 1725 пудоў добрых буракоў з дзесяціны. Пасадка рабілась радкамі: радок ад радка 8 вяршкоў, а ў радку—расьліна ад расьліны на 6 вяршкоў. На той-жа станцыі ў 1918 гаду, пры тых-жа глебавых і культурных умовах пасаджаная расадай капуста (браўншвэйгская) ўвосені дала з дзесяціны 1181 пуд зусім добрых качаноў капусты. Пры гэтым трэба адзначыць, што глебы Носаўскае дасьледчае станцыі досыць пясковыя і малоўгноеныя. На лепшых-жа глебах ураджай мог быць значна вышэйшы. Добрыя вынікі бываюць ад пасадкі бручкі пасьля віка-аўсянай мешаніны,—кармовых буракоў—пасьля ячменю, вікі—пасьля пшаніцы і інш.

У нашых умовах, на бедных пескавых глебах, пры недахопе гною, бывае вельмі важна і карысна атрымаць другі ўраджай ня толькі для корму ў гаспадарцы, а і для таго, каб другі ўраджай мог цалкам пайсьці на ўгнаеньне глебы, на так званае, зялёнае ўгнаеньне. Найлепшай пажніўнай культурай для гэтае мэты зьяўляецца лубін.

Пасеў пажніўнага лубіну шырока ўжываецца на Носаўскай і Навазыбкаўскай дасьледчых станцыях, у мяжуючых з імі сялянскіх гаспадарках, а ў апошнія гады ёсьць спробы пасеву пажніўнага лубіну і ў Горацкім раёне на Аршаншчыне. Калі толькі паклапаціцца загадзя аб насеньні,

то мэтад гэты вельмі прасты. Зразу, як толькі будзе прыбраны першы ўраджай жыта, ці віка-аўсянай мешанкі, ці ячменю, альбо іншае культуры,—поле узорваецца і засяваецца сінім або жоўтым лубінам (на пяскобых глебах лепш жоўты, а на зьвязных, цьвярдых глебах—сіні). Да восені лубін добра разьвіваецца, ўтварае вялікую расьлінную масу і нават часта адкрасуе і дае бліскучыя стручкі. Такі стан разьвіцьця лубіну лічыцца найлепшым для заворваньня на ўгнаеньне. Сакавітая лубінавая расьлінная маса добра раскладаецца і ўзбагачвае глебу пажыўнымі для расьліны матэрыямі, якія будуць пасеяны пасьля лубіну. Такім чынам, не займаючы на цэлае лета асобнага кліну пад лубін, можна карыстацца пажніўным пасевам.

Пажыўныя матэрыі, накопленыя, дзякуючы пажніўному лубіну, лепш усяго скарыстоўваюцца бульбай на другое лета. Па дадзеных Радамысельскай і Навазыбкаўскай дасьледчых станцый (пясковыя раёны) бульба дае прыбаўкі ад 200 да 400 пудоў з дзесяціны.

З прыведзеных вышэй дадзеных карысьць ад пажніўных культур відавочна. Прыходзіцца толькі пажадаць, каб такія пасевы былі значна пашыраны па БССР і былі-б у нас не навіною, а звычайным тэхнічным прыёмам у гаспадарках.

**А. Савельеў.**

Горкі, с.-г. Акадэмія.

---

# Закладка штучных пасьвішчаў.

У гэтым артыкуле мне хацелася-б азнаёміць сялян, як залажыць штучнае пасьвішча там, дзе раней была пусташ, аблога ці зусім дрэнны сухадол-сенажаць. Перад гэтым ня лішняе будзе зазначыць, што добрай пашы наша жывёла амаль ня мае. Большую частку лета яна прымушана круціцца то на голым папары, то на ўбітых бугрох і кустох, дзе ніякая трава не расьце. У сухое надвор'е калі тут праходзіць скаціна, дык падымаюцца хмары пылу. Вядома, што тут травы няма, корму для скаціны мала. Каб палепшыць карміленьне скаціны летам, некаторыя сяляне сеюць на полі для пашы белую канюшыну ці віку з аўсом, каб, косячы яе, падкармліваць скаціну дома.

Але робяць гэта ня ўсе. Ёсьць шмат гаспадарак малазямельных. Ім кожны мэтр поля патрэбен пад іншыя не кармовыя расьліны. Вось для іх асабліва бывае цяжка з пашаю. А між тым дапамагчы гэтай бядзе ня так ужо і цяжка.

Заўсёды можна найці пусты закінуты кавалак поля (пусташ, аблога, бугор, сухадол, які зарос адным сіўцом), дзе можна залажыць штучнае пасьвішча. Асабліва гэта лёгка зрабіць пасёлку. Далей мы і апішам усе працы па закладцы новага пасьвішча, як гэта практыкаваў праф. В. А. Харчанка ў Маскоўскай губ.

Зусім нягодны кавалак поля ўзорваецца ў пачатку чэрвеня добра высьцілаючым плугам. Перад заворкаю на гэты дзярван (сухадол, пусташ) возіцца гной. Праз 5-7 дзён, а то і раней пасьля заворваньня, ральля барануецца ў 2-3 сьляды бараною ўдоўж скібаў, каб не адварачваць наверх дзёрну. Барана добра прысыпле скібы, калі дзе-небудзь з боку будзе паказвацца зялёная трава. Надвор'е ў гэты час бывае цёплае і ральля вельмі

хутка перапрэе («перагарыць»). Праз тыдзень можна яшчэ раз прайсьці бараною ў 2-3 сьляды.

У першай палове ліпеня поле будзе ўжо зусім пульхным. У гэты час без пераворваньня на ім і сеюць азімае жыта і яравую віку ў мешаніне (жыта 8 п. і выкі 4 п.). Да восені яравая выка дасьць добрую зелень, а жыта азімае як пасеянае без пары (рана), будзе даваць толькі рунь.

Гэту мешаніну (выку і азімае жыта) увосень косяць на корм. К зіме-ж азімае жыта пасьпявае яшчэ адрасьці і такім чынам з мешаніны становіцца ўжо чысты пасеў жыта.

Рана вясною ўжо на другі год, пад гэта жыта трэба падсеяць мешаніну траў (белая і чырвоная канюшына, цімафейка) і прайсьці раз—другі бараною. Жыту гэта не пашкодзіць, а поле будзе трохі прадрана і хутчэй пачне прасыхаць і саграваецца.

Далей ніякіх прац не патрэбна. У час жніва прыдзецца прыбраць нармальны ўраджай жыта, дзе травы расьлі, як падсяўныя расьліны.

Далей на полі застаюцца адны травы. Пасьвіць тут яшчэ нельга. Толькі к восені травы могуць даць невялікі ўраджай, які лепш скасіць, каб не ўбіваць глебу спасваньнем.

Такім чынам, у другі год на быўшай пусташы (сухадолу) гаспадар здыме добры ўраджай жыта і невялікі ўраджай траў. І толькі на трэці год гаспадар можа пачаць выкарыстоўваць быўшую пусташ ці як сенажаць, ці як штучнае пасьвішча.

Калі хоць раз у год гэта пасьвішча пабаранаваць і пасеяць яшчэ попелу і якога-небудзь фосфарнага ўгнаеньня, дык яно будзе служыць некалькі год добрым пасьвішчам.

У шырокай практыцы гэты спосаб закладкі штучных пасьвішчаў і сенажацяй яшчэ не праведзен, але яго можна раіць. Кожны гаспадар, а асабліва селяне-дасьледчыкі, маглі-б яго праверыць і выкарыстаць у сябе. Вынікі напэўна будуць добрыя. У лепшым выпадку гэта можа даць нашаму селяніну шмат корму, бо ў нас вельмі багата такіх выганаў і пасьвішчаў, якія ніякай вартасьці ня маюць. Там нішто не расьце, не расьце нават і дрэнная трава, бо яны зьбіты і зьдзічэлі ад недахопу ў зямлі паветра, вады, і часта ўгнаеньня.

Толькі папярэднім вырабам іх на пахаць і ўгнаеньнем можна зьвярнуць глебе яе прыроднае багацьцё і здольнасьць даваць добры ўраджай травы.

Сяляне, закладвайце штучныя пасьвішчы, арганізуйце каапэрацыйна добрыя выганы для скаціны.

С. Т.

# Як адбіваецца абламліваньне бацьвіньня на ўраджаі буракоў.

На корм сьвіньням і каровам часта абламліваюць бацьвіньне буракоў; гэтага рабіць нельга, таму што лісты вырабляюць пажыўную матэрыю, якая потым адкладаецца ў корані бурака. Чым больш абламліваюць бацьвіньня, тым больш аслабляюць расьліны і ўраджай караньплодаў ад гэтага значна зьніжаецца. На Віцебскай дасьледчай станцыі на працягу двух гадоў вяліся досьледы з абламліваньнем бацьвіньня буракоў

жоўтых экэндорфскіх. Ніжэйшае бацьвіньне праз кожныя 10 дзён абламлівалася на адным вучастку па 1, па 3 і 5 лістоў. Досьлед рабіўся два гады. Атрыманыя вынікі прыводзяцца далей у табліцы:

| №№ па чарзе | Па колькі лістоў абламлівалася праз 10 дзён. | Ураджай на гэкт. ў тонах | | Ураджай у % % |
|---|---|---|---|---|
| | | З бацьвіньнем | Без бацьв. | |
| 1 | Без абламліваньня . . | 80,37 | 50,96 | 100 |
| 2 | Абломлен 1 ліст. . . | 75,37 | 55,96 | 96,5 |
| 3 | Абломлены 3 лісты. . | 58,49 | 46,22 | 79,9 |
| 4 | Абломлены 5 лістоў . | 37,59 | 33,06 | 57,1 |

З паданых лічбаў мы бачым, што чым больш абламлівалі бацьвіньне, тым меншы атрымалі ўраджай. Калі пры абламліваньні атрымалі 14 кілёграм лісьця, дык ураджай зьнішчалі на 43 проц. Таксама шкодна абламліваньне і капусных лістоў і бульбянага бацьвіньня. Таму кожны гаспадар павінен памятаць, што каб атрымаць добры ўраджай, дык нельга абламліваць ні капуснага лісьця, ні бацьвіньня буракоў, ні бульбоўніку.

**В. Чэмелаў.**

(Віцебская Дасьледчая Станцыя)

# Паштовая скрынка.

Вацура Н. І. Артыкул «Першыя веснавыя працы на пчэльніку» спазьніўся, таму друкавацца ня будзе.

К. Ш. У вашым артыкуле «Тэхнічныя культуры» зроблен амаль што толькі кароткі пералік расьлін. У такім выглядзе друкаваць нельга.

А. Г. «Некалькі парад селяніну аб гародзе». Пытаньне патрэбнае, але трэба было больш дэталёва апісаць і дадаць лічбы, якія атрыманы пры досьледзе. Перапрацуйце.

А. Я. К. 1) «Сход сялян-дасьледчыкаў Бабруйшчыны» Бюро сялян-дасьледчыкаў вызначае сазваць улетку. 2) Насеньне для сялян-дасьледчыкаў высылаецца Дасьледчымі станцыямі. 3) Ганарар аўтару высылаецца пасьля надрукаваньня артыкулу ўсёроўна, мае аўтар падпіску на часопісь, ці не. 4) Як праводзіць досьледы, Бюро сялян-дасьледчыкаў надрукавала інструкцыю. Можаце яе атрымаць на Дасьледчай станцыі.

П. М. Шульга. Артыкул «Лён і яго ўраджайнасьць у сувязі з угнаеньчем кухоннай сольлю» адкладваецца да атрыманьня ад вас вынікаў досьледу па гэтаму-ж пытаньню ў гэтым годзе. Другія артыкулы па мажлівасьці скарыстаем.

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*

ЦАНА 20 КАП.

## Выданьні Наркамзему

1. **Атабекянц**. Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
2. **Праф. Ліскун**. Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. . . ц. — 70 к
3. **Проф. И. Кулагин**. Красный Белорусский скот. 1923 г. 18 стар. . ц. — 5 к.
4. **Праф. А. Чалінцаў**. Аб рахунковым аналізе сельскае гаспадаркі. 1924 г. 68 стар. . . . . . . . . . ц. — 40 к.
5. **Праф. Штэйнберг**. Практычнае гароднiцтва. 1924 г. 136 стар. . ц. — 60 к.
6. **Я. Пачопка**. Як узгадаваць і даглядаць сад. 1923 г. 72 стар. . . ц. — 20 к.
7. **Л. Калікінскі**. Лубін і яго культура. 1924 г. 40 стар. . . . ц. — 20 к.
8. **С. Н. Тупяневіч**. Спосабы барацьбы з кілою капусных расьлін. 1927 г. 32 стар. . . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
9. **С. Тупяневіч і Заяц**. За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. — 25 к.
10. **М. Лайкоў**. Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле. 1926 г. 20 стар. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
11. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч**. Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва. 1926 г. 28 стар. . . . . . . ц. — 25 к.
12. **А. Михайлов**. Очерк развития агрономической помощи в БССР. 1923 г. 28 стар. . . . . . . . . . ц. — 10 к.
13. **П. Бойко**. Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири. 1927 г. ц. — 25 к.
14. **З. Скоморохов**. Что должен знать крестьянин о лесе. 1925 г. 70 ст. ц. — 25 к.
15. **И. Седашев**. Лесное хозяйство. 1923 г. 15 стр. . . . . ц. — 5 к.
16. **С. Ждановіч і Ярашчук**. Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі. 1926 г. 140 стр. . . . . . . . . . ц. — 70 к.
17. **Б. Бабицкий**. Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР. 1927 г. 54 стар. . . . . . . . . . ц. — 25 к.
18. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. 1925 г. 80 стр. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
19. **Л. Ивицкий**. Перечень действующего земельного законодательства БССР. 1927 г. 26 стр. . . . . . . . . ц. — 15 к.
20. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями. 1927 г. 354 стр. . . . . . . . . . . ц. 2 р. 60 к.
21. **Проф. Пичета**. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии до конца XVI века. 1928 г. 180 стр. . . . ц. 1 р. 80 к.
22. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. в выпусках. 1927 г. 960 стр. ц. 3 р. 55 к.
23. **А. Д. Дубах**. 1) Изменения профиля осушительных канав с течением времени. 2) Урожай трав на канализованном болоте. 3) Нарастание мха и торфа на болоте. 4) М. Л. Лейвиков. Рост сосны на канализованном болоте. 1926 г. 86 стр. . . . . . . . ц. — 65 к.
24. **К. К. Киселев**. Водный режим реки Орессы. 1926 г. 40 стр. . . ц. — 40 к.
25. **В. Г. Касаткин**. Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья. 1926 г. 48 стр. . . . . . ц. — 30 к.
26. **В. В. Адамов и И. К. Ярошевич**. Обзор растительности Белорусского Полесья. 1927 г. 96 стр. . . . . . . . . ц. — 50 к.
27. **Н. С. Фролов**. Вопросы экономики мелиораций. 1926 г. 160 стр. . ц. — 80 к.
28. **А. Д. Дубах**. Пути к уточнению проектирования осушительных работ. 1927 г. 52 стр. . . . . . . . . . ц. — 30 к.
29. **Н. М. Савич**. Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде. 1926 г. 140 стр. . . . . . . ц. — 80 к.
30. **В. Г. Петровский**. Мелиоративные товарищества Белоруссии. 1926 г. 150 стр. . . . . . . . . . . . ц. — 55 к.
31. **Т. Анціпенка**. Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы. 1927 г. 30 стар. . . . . . . . . . . . ц. — 12 к.
32. С. М. Тупяневіч. Сялянскі с.-г. досьлед па БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
33. Аб лесе і торпе. 1928 г. 20 стар. . . . . . . ц. — 12 к.
34. Ч. А. Бялюнас. Жыцьцё і гадоўля лесу. 1928 г. 48 стар. . ц. — 50 к.
35. С. І. Журык. Халоднае сіласаваньне. 1928 г. 24 стар. . ц. — 15 к.

Заказы накіроўваць: *Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва Н.Х. З.*

